# ЗЬМЕСТ.





Менск. 1-ая дзярж. друкарня. Зак. № 3.019. Галоўлітбел № 26120. У ліку 2.300 экз.

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ПЛУГ

Месячная навукова-папулярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі.

III год выданьня Жнівень 1927 г. № 8

## Што паказваць селяніну ў сьвята „Дзень ураджаю“.

Не за гарамі той час, калі цяжкая праца земляроба прыдзе к канцу і дасьць новы ўраджай. Каб селянін кожны год новы ўраджай мог павялічваць усё больш і больш, а гаспадарку перабудоўваць у бок большай даходнасьці, наша Дзяржава прымае цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія стваралі-б належныя ўмовы для высокага ўраджаю. Напрыклад, кожны год у нас усё больш і больш заводзіцца мінэральных угнаеньняў, загатаўляецца і пашыраецца сярод насельніцтва насеньне траў, караньплодаў, сартовае збожжа, пашыраюцца с.-г. машыны і прылады, праводзіцца асушка і культура балот, земляўпарадкаваньне і г. д.

Апрача таго, поруч з селянінам над ураджаем працуе аграном, коопэратар. На дапамогу селяніну ідзе і с.-г. кніжка, газэта журнал.

Усё гэта Дзяржава робіць дзеля таго, каб нам найхутчэй пакончыць з галоднай трохпалёўкай, забыць трыццаці-пудовы ўраджай, малую бездаходную карову.

Вось чаму ўсякае новае дасягненьне ў сельскай гаспадарцы, як *высокі ўраджай, даходнасьць каровы, ураджай пладовага саду, гароду пашырэньне пчалярства* і г. д. у нас падлічваецца ў восень і дзень гэтага падліку і агляду лічыцца сьвятам—*„Днём ураджаю“*.

Ужо чацьверты год будзе праводзіцца гэта сьвята ў нас і кожны год у гэты дзень на с.-г. выстаўцы наша сельская гаспадарка выяўляе свае новыя дасягненьні. На выстаўках у мінулыя гады прэміраваліся пасевы траў, караньплодаў, лепшая скаціна і г. д.

Ці можа ўсё гэта здавальняць нас цяпер, у 1927 годзе? Бязумоўна, не. Прыблізна даваенны ўзровень сельскай гаспадаркі ў нас ужо застаўся ззаду, да ў гэтым годзе можна чакаць і большага.

Вось чаму да „Дню ўраджаю“ гэтага году трэба гатаваць прыблізна такія экспанаты, якія выяўлялі-б ужо—

1. *Найбольшы ўраджай* збожжа, караньплодаў, траў, лёну і інш. *пры шматпольным севазвароце, ужываньні на ўгнаеньне мінэральных парашкоў, лубіну, торфу.*

2. *Палучэньне чыстасортнага насеньня* ў сваёй гаспадарцы (збожжа, караньплодаў, канюшыны, лубіну, выкі, лёну) *з мэтаю прадаваць яго на рынку* (асабліва праз насенныя т-вы). *Дасягненьні і ў здабываньні корму.*

3. *Дасягненьне высокіх ураджаяў у садзе і гародзе.*

4. *Найбольшы ўдой малака* пры правільным утрыманьні, доглядзе і кармленьні каровы.

5. *Найбольшая вага маладняка.*

6. *Палучэньне вялікай даходнасьці ад пчол.*



7. *Прыклады шырокага скарыстаньня машын у сельскай гаспадарцы праз машынныя т-вы.*

8. *Лепшыя хатнія вырабы.*

9. *Дасягненьні колектыўных гаспадарак і г. д.*

Вядомая рэч, што ўсе лічбы, якія нельга праверыць у час выстаўкі, павінны быць пасьведчаны аграномам ці другім мясцовым працаўнікам.

Напэўна, такія вымаганьні ня будуць празьмернымі, бо і ў гэтым годзе наша сельская гаспадарка зробіць добры крок наперад. Ёсьць даныя, што ў гэтым годзе значна пашырылася плошча канюшыны (у параўнаньні з 1926 г. на 34 проц.), выкі і сэрадэлі (на 25 проц.). Таксама мы маем ужо вельмі добры ўраджай траў, добрае сена і жыта.

Разьвіцьцё малочных арцеляй прымусіла сялян зьвярнуць увагу на малочную карову і цяпер удой малака ў 200 вёдзер у год не зьяўляецца вельмі выпадковым*). Шмат што высокакультурнае і вельмі цікавае могуць пахазаць у „Дзень Ураджаю“ нашы сяляне-пасьледчыкі і культурнікі, саўхозы, колхозы, с.-г. коопэрацыя і г. д.

Трэба толькі ня ўпускаць часу і загадзя рыхтавацца да „Сьвята Ураджаю“ і с.-г. выставак. Як рыхтавацца і праводзіць с.-г. выстаўкі, ужо пісалася ў „Плугу“ некалькі разоў (№ 7 1925 г., № 7 і 9 1926 г.). Зараз патрэбна толькі зазначыць адносна месца выстаўкі і шырокага іх выкарыстаньня, як масавых сельска-гаспадарчых школ. Такі падыход да выстаўкі патрабуе мо‘ штогодняга перасоўваньня яе месца ў новы сельсавет раёну, каб усё насельніцтва гэтага сельсавету бяз выключэньня магло-б прайці *кароткую с.-г. школу-выстаўку.*

На выстаўцы апрача экспанатаў па розных галінах сельскай гаспадаркі пажадана шырока праводзіць чытаньне лекцый, пашырэньне с.-г. літаратуры, лістовак, плякатаў, яшчэ больш пашыраць прэміраваньне с.-г. бібліатэчкамі і г. д.

Для прэміраваньня неабходна *вылучаць рэкордныя каровы па ўдою, рэкордных сьвіней па вазе, гаспадаркі па ўраджаю і г. д.*

Словам, падрыхтоўка да дню „Сьвята Ураджаю“ ў гэтым годзе павінна заняць найбольш увагі, бо *дасягненьні сельскай гаспадаркі гэтага году будуць і дасягненьнямі 10-й гадавіны Кастрычніка.*

**С. Тупяневіч.**

---

**СЯЛЯНЕ-ДАСЬЛЕДЧЫКІ! Старайцеся ў час прыбраць і даскана́ла падлічыць ураджай на вашых дасьледчых вучастках. Усё дакладна запісвайце.**

**Добра зрабіць фатаграфічныя здымкі хоць некаторых дзялянак.**

**Досьледы з азімымі працягвайце і на наступны год. Новыя досьледы закладвайце па праграме, якая надрукавана ў „Плугу“ № 8 1926 г., стар. 11.**

**Зараз высылаецца вам 100 гр. азімавай выкі. Просьба закласьці досьлед згодна артыкула агранома Уліціна** *(стар. 6).* **(Рэд.).**

*) У селяніна А. Карнейчыка адна карова дала за год 221 вядро (гл. стар. 24).

# ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

## Да асеньняга севу.

Плошча азімай зьмены па БССР складае да 40 проц. ад агульнай плошчы засеву. Напрыклад, у бягучым годзе пад азімымі было занята 1.203 тыс. дзес. ад агульнай пасеўнай плошчы ў 3.024 т. дзес. (жытам 1.169 тыс. дзес., азім. пшаніцы 34 тыс. дзес.).

Ураджаі азімага жыта і пшаніцы па БССР ужо некалькі перавысілі ўраджаі даваеннага часу, але застаюцца яшчэ нізкімі ў параўнаньні з замежнымі краінамі. Дзеля прыкладу дадам наступныя лічбы:

| | Па БССР | | | Данія | Нямеччына | Бельгія |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1905—13 | 1926 | 1927 | За 1909—13 г. | | |
| У сярэднім ураджай азімага жыта (у пуд. на дзес.) | 41.8 | 42.0 | 46.0 | 112 | 128 | 146 |

У зьвязку з перабудовай масавай сялянскай гаспадаркі ў бок інтэнсіфікацыі і пераходам да шматпалёвых севазваротаў (дзе плошча азімых павінна некалькі скарачацца) плошча азімага жыта па ўсёй БССР за апошнія гады ў %% да агульнай плошчы засеву паступова скарачаецца, але гэты процант, як бачым, застаецца яшчэ значным. У далейшым, як і ў бягучым годзе, галоўнай мэтай сялянства і зям'органаў павінна быць падвышэньне ўраджаяў азімавых усімі магчымымі дзеля скарыстаньня ў гэтым напрамку сродкамі і перш за ўсё сродкамі агротэхнічнага ўплыву. Толькі пры гэтых умовах магчыма будзе замацаваць шматпалёвыя севазвароты, а яны ў сваю чаргу верна падвышаюць ураджай.

*У якіх-жа ўмовах праходзіць асеньні сеў у бягучым годзе?* Ураджай азімага жыта і пшаніцы ў сярэднім па БССР у гэтым годзе (па лічбам ЦСУ) здавальняючы. Прыборка праходзіла таксама ў спрыяючых умовах. Значыць, насеньнем насельніцтва больш-менш будзе здаволенена. Выключэньнем будуць тыя гаспадаркі, якія пастрадалі ад градабіцьця. Тут бядняцкім і серадняцкім гаспадаром патрэбна дапамога, якую павінны зрабіць камітэты сялянскай узаемадапамогі і с.-г. коопэрацыя. Белсельбанк на крэдытаваньне насеньнем бядняцкіх гаспадарак вылучыў крэдыт да 100 тыс. руб. Апрача таго, па пляну Белсельбанка на час асеньняй кампаніі павінна быць выдан крэдыт на куплю с.-г. машын да 190 тыс. руб., на мінэральныя ўгнаеньні (на адзін ураджай) 100 тыс. руб. і колхозам на куплю коняй 30 тыс. руб.

*Галоўныя мерапрыемствы зямельных установ* у час асеньняга севу праводзяцца праз аграномаў і маюць сваёй мэтай павышэньне ўраджаю азімых.

1. *Ачыстка сялянскага насеньня.* Усяго па БССР працуе да 1.400 розных машын па ачыстцы і сартаваньню зярна. Сярод гэтых машын працуе 400 трыераў. Калі сяляне дружна павязуць зярно для ачысткі, дык можна будзе прапускаць да 1 міл. пуд. насеньня. Ачыстка на машынах зямельных органаў і саўхозаў будзе бясплатнай, значыць, ад сялян залежыць даць поўную нагрузку машынам.

2. *Пратручваньне насеньня* пшаніцы ад сажы. Фармалін для пратручваньня сяляне могуць палучыць ад агранома бясплатна і за плату ў аптэцы. Гэту працу трэба праводзіць, бо заражонасьць пшаніцы сажаю зьніжае ўраджай і псуе муку.

3. К *пасеву саўхозы правядуць абмен жыта* да 75.000 пуд. (пяткоўскае, прабштэйскае, трасьнікевае, шацкае) і азімай пшаніцы—4.200 пуд. (высокалітоўскі сорт).

4. *Закладка вопытна-паказацельных вучасткаў* з азімымі. Найбольшая частка вучасткаў з азімымі павінна быць заложана з мінэральнымі ўгнаеньнямі, торфам і інш.

У гэтым годзе ўпяршыню раённыя аграномы будуць закладваць досьледы з пасевам мешаніны азімай выкі з жытам для палучэньня раньняга веснавога корму. На акругі завозіцца да 400 пуд. насеньня азімай выкі.

Паказальныя вучасткі закладваюцца галоўным чынам па пасёлках, як найбольш патрабуючых агранамічнай дапамогі, а таксама ў бядняцкіх і серадняцкіх гаспапарках.

5. *Выдача інвентара з бліжэйшых пракатных пунктаў* тым гаспадаркам, якія маюць патрэбу на плугі, бароны, сяўнікі і г. д. Асабліва пажадана карыстаньне радковымі сяўнікамі пасёлкам.

6. *Прадажа са складаў мінэральных угнаеньняў* праводзіцца, як складамі Цэнтраземсклада, так і с.-г. кооперацыі. На 1-е ліпня двумя гэтымі арганізацыямі загатавана да 432 тыс. пуд. мінэральных угнаеньняў*). Цэны на іх зьніжаны.

7. *Агранамічная дапамога пасёлкам, колхозам* і гаспадаркам пераходзячым на шматпольле пры пасеве азімых, каб пераход на шматпольле адказваў пляну, які складзен аграномам разам з гаспадаром. Мы ведаем, што ад празьмернага павялічэньня плошчы азімых часьцей усяго і бывае нарушэньне севазваротаў. Вось чаму патрэбна севазварот замацоўваць пасевам па поле, а не на папары.

Аграномы часта ня могуць пабываць на пасёлках, асабліва далёкіх, бо ня маюць каня для раз'ездаў. З гэтай прычыны самі пасялкоўцы павінны прысылаць падводу.

Пры асеньнім севе сялянам неабходна помніць, што найлепшыя вынікі даюць пасевы без апазьненьня—у другой палове жніўня. Раньнія і позьнія пасевы па даных дасьледчых станцый бываюць горшымі. І яшчэ адно. Поўны посьпех усёй працы па асеньняму севу будзе зьвязаны ў першую чаргу з самадзейнасьцю сялянства, і далей ужо з працаю аграномаў і іншых установ, якія прызваны да працы па разьвіцьцю сельскай гаспадаркі і асабліва бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

**А. Міхайлаў.**

*) Супэрфосфат у 276 т. пуд., тамасшлакі 37 т. п., касьцяной мукі 80 т. п. і фосфарытнай мукі 39 т. пуд.

# Калі сеяць жыта.

Жыту селянін аддае шмат увагі і працы. „Сей жыта ў пару ды ў меру"—ёсьць прыказка. Аднак, калі-ж сеяць жыта?

Досьледамі зазначана, што найлепшы час пасеву гэта—25-30 жніўня новага ст.

1. Як агульнае правіла, трэба мець на ўвазе, што чым менш угноена зямля, тым раней трэба сьпяшацца з пасевам і наадварот—вельмі пагнойная зямля пры даволі раньнім пасеве дае сільны рост, добрае куставаньне, але пад сьнегам такое жыта можа выправаць. Вось чаму ў гэтым выпадку сьпяшацца ня трэба.

2. Пасеў жыта добра рабіць у сухую пагоду і ў сухую зямлю, але калі ўжо прадбачыцца дождж за 2-3 дні; для гэтага сяляне часта карыстаюцца сваімі прыметамі аб перамене пагоды.



Барана „Зіг-заг".

Жыта-ж пасеянае ў сухую пагоду і сухую зямлю ўзыходзіць нероўнамерна і ўжо ад гэтага ўраджай паніжаецца, асабліва калі і на другі тыдзень пасьля пасеву ня выпадзе дождж. Так было ў мяне ў 1923 г., ад чаго ўраджай панізіўся на 40 проц.

3. Зямля павінна быць прыгатавана так, каб апошняе ворыва адбылося не пазьней двух тыдняў да пасеву, каб асела і зьляглася зямля; ў адваротным выпадку зямля асядзе ўжо тады, калі ўзыйдзе жыта. Такое жыта будзе падсыхаць і дрэнна куставацца. Пад сьнег гэтакае жыта ідзе слабым, зіму пераносіць дрэнна і ўраджай, нават ня гледзячы на ўгнаеньне, паніжаецца.

4. Трэба выбраць такі час для сяўбы, каб і праз $1^{1}/_{2}$ м-цы пасьля ўсходаў таксама выпадалі дажджы. Праўда, звычайна вызначыць гэта надта цяжка.

**Янка Лапа.**

# Заводзьце азімую пшаніцу.

Азімую пшаніцу я сею шосты год. Увесь гэты час я выяўляў якую пшаніцу ў нас выгадней разводзіць—азімую ці яравую. Вось што паказаў мне мой досьлед у 1925 годзе. Калі я восеньню 1924 г. сеяў азімую пшаніцу, дык пакінуў кавалачак поля не засеяным, каб вясною засеяць яго яравою пшаніцаю.

Пад азімай пшаніцай плошча была 400 кв. саж., насеньня рассеялася 1 п. 30 ф., а пад яравою пшаніцай плошча была 50 кв. саж., насеньня рассеялася 12 фун. Глеба пад пшаніцамі была сугліністая і аднолькава ўгноеная.

Ураджай азімай пшаніцы я меў 19 пуд. (114 п. на дзес.), а яравой 1 п. 14 ф. (па разьліку на дзес. 64 п. 32 ф.). Да гэтага трэба яшчэ дадаць што ад азімай пшаніцы я ўзяў амаль што ўдвайне саломы і зярно было буйнейшае. Таксама трэба адзначыць, што азімая пшаніца больш трывалая да сушы, чым яравая. Напрыклад, 1926 год у нас быў сухім і яравая пшаніца зусім прапала, а азімая была вельмі добрая.

Глебу пад азімую пшаніцу трэба рыхтаваць, каб яна была пульхнай і добра ўгноенай. Час сяўбы будзе да верасьня. Вясною азімую пшаніцу трэба абавязкова пабаранаваць.

Сел. **А Фурса.**

(в. Цішаўка, Магілеўшчына).

# Азімая выка—найлепшы прыяцель сельскага гаспадара.

**Азімая выка дае самы раньні зялёны корм, значна памяншае кармовы крызіс і дае магчымасьць культурна весьці гаспадарку.**

**Азімая выка вельмі добра расьце на нашых пяшчаных глебах.**

**Азімая выка сеецца восеньню разам з жытам, а прыбіраецца ў канцы мая месяца.**

**Выка цалкам падыходзіць да нашага клімату і глебы і заўсёды дае добры ўраджай.**

**Азімая выка дапаможа зьнішчыць кармовы крызіс.**

**Насеньне азімай выкі ёсьць у Цэнтраземскладзе.**

**Насеньне азімай выкі павінна быць сваетэрмінова палучана і высеена.**

Азімая выка не пераборліва да глебы і добра ўдаецца на нашых пяшчаных глебах, за што завецца яшчэ і пяшчанай. Па свайму выгляду азімая выка вельмі падобна на мышыны гарошак, як лісьцямі, так і цьвятамі.

Лісьце і сьцябло азімай выкі пакрыты пушком, за што яе называюць яшчэ і махнатай. Ад яравой выкі яна розьніцца кветкамі, якія сабраны ў купкі і насеннымі стручкамі, якія ў азімай выкі карацей і шырэй, чым у яравой і маюць у сабе 4-5 зярнят. Зерня азімай выкі круглае, дробнае (значна драбней, чым яравое), чорнага колеру і на смак ёдкае.

*Значэньне азімай выкі.* Каштоўнасьць азімай выкі складаецца ў тым, што яна дае вясной самы раньні і добры корм—у пачатку мая, калі навокала чарнеюць палі і нават дзікія травы толькі, толькі пускаюцца ў рост. У канцы мая па новаму стылю азімая выка закончвае свой рост, зацьвітае і павінна прыбірацца на сена, а поле з-пад выкі паступае ці пад пар, ці пад пасеў другіх расьлін—турнэпсу, грэчкі і інш.

Таму азімая выка зьяўляецца вельмі зручнай расьлінай для занятага пара, бо па прыборцы азімай выкі ад канца лета застаецца яшчэ вельмі многа часу для падрыхтоўкі глебы пад пасеў азімага жыта, бо ў гэты час узорваюцца толькі раньнія пары; сяляне-ж звычайна ў гэты час толькі адсяваюць позьнія яравыя, а папары паднімаюць значна пазьней.

*Выгады раньняга корму.* Ня шкодзіць напомніць кожнаму селяніну, што асноўнай прычынай нашай гаспадарчай адсталасьці і беднасьці зьяўляецца беднасьць на корм. Трэба ўсім гаспадаром цьвёрда памятаць, што кармовае пытаньне зьяўляецца цяпер і ў будучым тым фундамантам, на якім толькі і можа быць пабудована моцная і разумная сельска-гаспадарчая культура і дабрабыт земляроба.

Ад спрыяючага і правільнага вырашэньня кармовага пытаньня будзе залежыць увесь будучы лёс нашага земляробства. Адсутнасьць корму і пастбішч з вясны прымушаюць нашых гаспадароў выцягваць чуць-чуць жывую жывёлу з хлявоў і трымаць яе на папарах.

Выпас жывёлы на пустых папарах канчаткова псаваў зямлю і трымаў жывёлу заўсёды галоднай.

Над вырашэньнем кармовага пытаньня (г. ё. выбарам больш зручнай хутка-растучай расьліны) вельмі доўга працавалі перадавыя вучоныя, сельскія гаспадары і аграномы. І пакуль што ўдалося знайсьці адну з расьлін, ва ўсіх адносінах здавальняючую патрабаваньням гаспадара, жывёлы і папару—гэта азімая выка. Яна ў самы цяжкі вясновы час бяскорміцы можа даць жывёле добры зялёны корм, для чаго жывёла можа ўтрымоўвацца ў стойле ці на выкавым полі на прывязі. Зусім не патрабуецца для жывёлы шырокі простор бясплоднай пустэчы, а патрэбна толькі некалькі квадратных саж. добрай травы і жывёла будзе сыта і добра будзе даваць малако. Пасьба жывёлы на прывязі здавальняе ўсе патрабаваньні зоогігіены, экономіі корму і ў будучым прыўецца ў нас, як і заграніцай. З выпасам жывёлы на папарах пры нашым малазямельлі трэба пакончыць назаўсёды: пакуль жывёла будзе на папарах, гаварыць аб палепшаньні гаспадаркі ня прыходзіцца.

Частку папару, незанятую пад азімую выку, магчыма ўзараць раней і апрацоўваць правільна, што таксама значна павялічыць ураджай, ды і вучастак, заняты азімай выкай, дасьць ураджай большы, чым звычайны сялянскі позьні папар.

Такім чынам, усе недахопы нашае гаспадаркі пры дапамозе азімай выкі адхіляюцца і толькі з азімай выкай пакуль можна часткова вырашыць кармовае пытаньне.

*Калі і дзе трэба сеяць азімую выку.* Азімая выка сеецца звычайна пасьля ярыны, г. ё. на вучастках, якія павінны паступіць у наступным годзе пад папар. Для гэтага пасьля прыборкі ярыны, поле зараз-жа арэцца на поўную глыбіню (4 вярш.) і зараз-жа барануецца. Калі мяркуецца пад жыта ўнесьці гнаёвае ўгнаеньне, дык палову гэтага ўгнаеньня можна палажыць з восені пад выку, а палову—вясною пасьля прыборкі выкі.

Пасеў азімай выкі робіцца восеньню адначасова з жытам, так 20-25 жніўня па новаму стылю. Насеньне азімай выкі перамешваецца з жытам, каторае ўжываецца каб падтрымаць выку ў часе росту, інача́й выка, ня маючы стаячага моцнага сьцябла, можа палегчы і пагніць. Насеньне азімай выкі для пасеву на зялёны корм, ці сена бярэцца 7-8 пуд. на дзес. і к яму прымешваецца 2½-3 пуд. жыта. Калі-ж выка сеецца на насеньне, дык выкі бярэцца некалькі меней 5-6 пуд. і 3½ пуд. жыта.

*Прыборка азімай выкі.* З восені азімая выка вырастае вяршкі на 3-4, добра ўкараняецца, а жыта кусьціцца. Вясною, як толькі наступае цёплая пагода, выка пачынае хутка разьвівацца і к моманту выкалашваньня жыта (25-30 мая) выка дасягае 1-1½ арш. вышыні, зацьвітае і павінна зараз-жа прыбірацца з поля. Калі азімая выка пакідаецца на насеньне, дык яна пасьпявае адначасова з жытам і прыбіраецца, калі стручкі ўжо пажаўцелі і насеньне зрабілася цьвёрдым.

Прапускаць час прыборкі ня варта, бо пры спазьненьні з прыборкай стручкі трэскаюцца і многа насеньня гіне. Прыбіраецца азімая выка сярпом ці касою і сушыцца ў пакосах і копах. Насеньне аддзяляецца ад жыта лёгка пры дапамозе сартоўкі „Зьмейкі", Трыера.

Ураджай насеньня з аднэй дзес. палучаецца ў сярэднім 50-60 пуд. і сена да 300 пуд. і больш. Пасьля прыборкі выкі на сена, зямля вы-

ходзіць пухкая, рыхлая і калі не прапусьціць часу з унясеньнем гною і ўзорваньнем, дык да пасеву гной добра раскладаецца.

Для палучэньня насеньня азімую выку трэба сеяць з восені пасьля жыта, каб яна прышлася ў яравым кліне. Сена азімай выкі няўступае канюшыне і ахвотна паядаецца жывёлай.

Азімая выка павінна ў кароткі час шырока распаўсюджвацца сярод гаспадароў нашай акругі, заняць першае месца ў шэрагу расьлін для занятага папару і раньняга зялёнага корму для жывёлы.

Акруговы агранам **Уліцін.**

---

# Як заворваць лубін.

Дзён праз 60 пасьля пасеву лубін зацьвіце і як толькі з кветак завяжуцца маленькія стручкі, трэба распачаць заворваньне.

У Віцебшчыне лубін—новая расьліна. Паводле маіх досьледаў яна дае найлепшыя вынікі, гэта значыць зялёная маса вырастае вялікая і паўстае пытаньне, як яе заараць. Некаторыя аўтары кніжак раяць скошваць лубін і пасьля заворваць. Але рабіць гэтага ня варта: працы



Пружыноўка.

многа, а вынікі дрэнныя. Прыкачваньне цяжкім вальцом таксама не дасягае мэты: уся маса ізноў устае. Прывязваньне ланцуга да дышля і да паліцы ў плузе, каб нахіляць лубін на хаду плуга, таксама не дае добрых вынікаў.

Найлепшым спосабам заворваньня лубіну зьяўляецца апрацоўка поля талеркавай бараной удоўж і ўпоперак, пры якой лубін рэжацца на часткі і найлепш заворваецца. Пры гэтым спосабе лубін хутка гіне і зямля пад ім хутка асядае, што вельмі важна, бо калі зямля не асела да часу пасева жыта, дык пазьней пры асяданьні зямлі карэньні

жыта аголяцца, паказваецца вузёл куставаньня і ад гэтага ўраджай зьмяншаецца на $^1/_3$.

З тэй прычыны, што талеркавая барана ня ўсюды ёсьць, адзначу другі даступны спосаб заворваньня лубіну, які я практыкаваў—гэта пружыноўка.

Поле разьбіваецца на загоны і барана павінна хадзіць у той бок, як і плуг. Пружыноўка ставіцца так, каб пярэднія і сярэднія зубы расчэсвалі лубін, а задні рад часткаю чапляў зямлю, але не цягаў масы лубіну. Пры рабоце плугам усе сьцяблы лубіну будуць класьціся ўздоўж баразны і прыкрывацца скібаю зямлі.

Пры заворваньні лубіну паказанымі двума спосабамі на паверхні зямлі ня відаць ніводнага сьцябла. Калі стаіць сухое надвор'е, поле трэба забаранаваць. Самы кароткі тэрмін заворваньня да сяўбы— два тыдні, каб зямля магла яшчэ асесьці. Другі раз пераворваць поле ня трэба, а сеяць жыта ў гэты верхні пласт і баранаваць яго, але каб сьцябло лубіну пры гэтым ня выцягвалася.

Добра падсеяць сюды супэрфосфату пуд. 6 на 1 дзес. і яшчэ лепш дадаць і калійнай солі. Лубін разам з гэтымі ўгнаеньнямі зьяўляецца поўным угнаеньнем і дае ўраджай, як і 2400 пуд. гною.

Янка Лапа.

(в. Цьвяткоўшчына).

# Аб памылках у карыстаньні мінэральнымі парашкамі.

Шмат хто з сялян ня раз чуў ад агранома пра мінэральныя парашкі, а другія самі чыталі ў кніжках. За апошнія гады сялянства і ў нас пачало ўжываць парашкі ў даволі значным ліку.

Але пры няўмелым карыстаньні мінэральнымі ўгнаеньнямі добрых вынікаў бывае мала. Па гэтай прычыне цяпер можна пачуць на кожным кроку—што *парашкі—ня гной і яны не падыходзяць да нашай зямлі.*

Вось чаму мы мала ўжываем парашкоў, а ўжываць іх можна і трэба безпамылкова.

Я пра няўдачу нашых сялян з мінэральнымі парашкамі скажу некалькі слоў, бо я ведаю зямляробскія памылкі. Каб ня было памылак з парашкамі, селяніну трэба добра запамятаць наступныя правілы:

1. Парашкі бываюць розныя і падзяляюцца на тры групы— *фосфарныя, азоцістыя і калійныя.* А расьліны-ж таксама ня ў роўнай меры патрабуюць азот, фосфар і калі. Адны цягнуць з зямлі больш азоту (жыта), другія больш калія (караньплоды, бульба, лён), трэція—фосфар.

Вось цяпер і могуць быць розныя выпадкі, у якіх трэба разьбірацца. Напрыклад, сеецца бульба ці лён; тут ужо можна дадаваць калі я праз парашкі і яны добра аплацяцца.

Другі прыклад. Зямля далёка ад сялібы, сеяцца жыта і авёс. Тут зямля высільваецца на азот і фосфар, значыць іх трэба ўносіць у глебу. Калі-ж зямля зусім бедная, спустошаная і палажыць там адно якое-небудзь угнаеньне, дык вядома вынікі будуць кепскія. А гэта ў нас цяпер вельмі часта бывае. Купіць селянін пуд якога-небудзь

аднаго ўгнаеньня, пасее яго на самай пустой зямлі, а пасьля пры няўдачы і звоніць, што парашкі не далі ніякай пользы.

Яшчэ прыклад. Ня раз і на гной былі нападкі, што ў сухое лета ўсю бульбу папсуе драцяны чарвяк. А гэта таксама ад таго, што даём залішне сьвежага гною. Калі-б гаспадар зьменшыў на $^1/_3$ гною, а дабавіў калійнай солі, дык вядома гэтага ня было-б.

Мінэральнае ўгнаеньне патрабуе ад гаспадара ведаў, як ім карыстацца. Трэба ведаць, якая глеба—супесь, суглінак, падзол і што сеялася некалькі гадоў на гэтай зямлі і тады выбіраць патрэбнае ўгнаеньне. Калі-ж гаспадар ня можа гэтага вырашыць, дык на гэта ёсьць бясплатная парада ў аграномаў.

На памылках вучымся і калі адзін раз гаспадар неправільна скарыстаў парашкі, дык я раю ня кідаць справу, а спрабоўваць далей. На пустой зямлі мінэральнае ўгнаеньне памагае, а на пагнойнай памагае ў 2 разы.

Замежамі палявая гаспадарка дае высокія ўраджаі. Трэба і нам павесьці гаспадарку па замежнаму і ўжываць больш мінэральных парашкоў.

Сел. Л. Запольскі.

(Пасёлак Калодзішкі, Меншчына).

---

# Заворвайце рана аржоньне.

Яшчэ да гэтых часоў наш селянін ня ведае тэй карысьці, якую дае раньняе заворваньне аржоньня або раньняя воранка на зяб. Аручы аржоньне хутка пасьля прыборкі жыта ўжо каторы год, я пераканаўся, што гэта на першы погляд маленькае мерапрыемства значна павялічвае ўраджай тэй расьліны, якая на другі год сеецца на такім рана ўзораным аржоньні.

Звычайна час заворваньня прыпадае на апошні тыдзень ліпня (20-30), калі збожжа прыбрана і пройдзе адзін-другі дзень дождж, які прамочыць зямлю.



Многолямешны плуг для пажніўнага лушэньня

Раньняе ўзорваньне аржоньня, папершае, зьнішчае сорныя травы, асабліва сьвірэпку і кукаль; насеньне якіх ўвосень узыходзіць і расьце,але з падыходам асеньніх замаразкаў усе сарнякі гінуць. Падругое, рана заворанае іржышча добра пераправае, а глеба запасаецца пажыўнымі солямі, вадою і наогул значна паляпшаецца.

Першы мой досьлед над гэтым быў у 1924 годзе, калі я, зжаўшы жыта ў той-жа час узараў аржоньне (гэта было ў сярэдзіне ліпеня), а цераз паўтара месяцы к восені ўся сьвірэпка ўзышла, але пачаліся хутка замаразкі і яна загінула. На гэтай палосцы і цяпер няма сарнякоў.

Мой сусед на сваю палоску клаў гной, а ўраджай ярыны быў аднолькавы. З таго часу я заўсёды заворваю аржоньне рана, асабліва тую плошчу, дзе на будучы год буду сеяць бульбу. Гэта мерапрыемства дазваляе мне рана пасеяць бульбу, бо глеба для пасеву ў мяне падрыхтована яшчэ з восені.

Перакanaўшыся ў гэтым, клічу ўсіх сялян заворваць ржышча як мага раней. Гэтым спосабам вы можаце павялічаць ураджай, аб чым мы марым у штодзеннай сваёй працы.

Сел. дасьледчык **Я. Савіцкі.**

(в. Шмакі, Магілеўшчына).

---

# Як вырабляць дзярван.

За мінулую вайну ды і падчас рэвалюцыі шмат дзе поле было закінута, чаму і ўтварыліся дзярваны. Цяпер-жа гэта зямля дасталася многім безьзямельным і яны прымушаны вырабляць дзярван. Яшчэ горай, калі ў іх няма каня або ён слэбасільны. Але і вырабляць дзярван трэба ўмеючы. Выраблюючы яго ўпяршьню, гаспадар часта робіць памылкі і траціць дарэмна працу.

Мне прышлося вырабіць на поле 8 дзес. дзярвана (дзярван меў ня менш 10 год). Перш і я рабіў памылкі, але хутка справа сама навучыла. Найлепшая пахаць у мяне выходзіла тады, калі выраб дзярвана я праводзіў так: у пачатку верасьня я няглыбока ўзорваў дзярван (да 2-х дзес.) і пакідаў яго так да вясны. Пры воранцы плуг трэба настроіць так, каб ён лепш высьцілаў. Вясною-ж у пачатку мая (як на полі падсохне) трэба дзярван пацягнуць разы два бараною, але абавязкова „па шэрсьці“ скібаў. Праз тыдні два гэту працу трэба яшчэ раз зрабіць, а далей да самай мешані скародзіць ральлю ўжо ўдоўж і ўпоперак, каб не зьявілася трава.

Першыя два баранаваньні добра прыкрыюць дзёран, а далейшыя будуць падварушваць скібы, ад чаго яны будуць лепш прэць.

Пры мешані пад жыта (за 2—3 тыдні да пасеву) дзярван звычайна ў мяне ён перасыпаецца, як зямля на гародзе. Ня бывае ніводнага кусочка зялёнага ці жывога дзёрну.

Але яшчэ лепшым бывае поле пры заворваньні яго пасьля прыборкі жыта на другі год. Значыцца, дзёран прэе яшчэ адзін год. Але цяпер поле бывае пульхнае, камкаватае. Ня вясну такое поле ідзе ў мяне пад бульбу. Для добрага ўраджаю бульбы трэба яшчэ падвесьці 1200—1500 пуд. гною. Сарнін-жа на такім полі ня знойдзеш.

Ад такога вырабу дзярвана мала чым адрозьніваецца ў мяне і выраб канюшынішча. У мінулым годзе так я вырабіў канюшынішча ½ дзесяціны.

15-га ліпня (пасьля прыборкі канюшыны) я пусьціў па канюшынішчы пружыноўку і добра яго перадраў. За 2½ тыдні да сева жыта ўзьмяшаў, к гэтаму часу поле добра адсырэла і давала пульхную ральлю.

У бягучым (1927) годзе на гэтым вучастку жыта зжаў 20 ліпеня, на другі дзень зааараў і 23-га пасеяў лубін на зялёнае ўгнаеньне пад авёс 1928 г. І цяпер пры воранцы поле было мяккім і даволі сырым. Праз тры дні лубін ужо ўзыходзіў.

Паказаны мною выраб дзярвана ці канюшынішча не вымагае лішняй працы, найлепш ачышчае поле ад сарнін і ў кароткі час дае добрую ральлю.

**Пётра з Пустога Поля.**

(Байдацкі с./с.)

---




## Вопыт вапнаваньня канюшыны.

Рана вясною гэтага году купіў я розных „парашкоў"—угнаеньняў: *калійнай солі, супэрфосфату, тамасаўкі, фосфарыту, чылійскай салетры, неадгашанай вапны* і ўсё гэта стаў скарыстоўваць пад вопыты з гароднінай, са збожжам, караньплодамі, сенажацыю, кармовымі травамі. У некаторых выпадках вынікі былі і дрэнныя, але аб іх паведамлю ў другі раз, калі атрымаю канчатковыя і сталыя лічбы.

Пакуль што маю канчатковыя вынікі з вопыту над канюшынаю, Канюшына была пасеву 1926 году пад авёс. Глеба—цяжкі падзол-Пасьля жніва аўса па іржышчу, як гэта прынята ўсюды ў вёсках. пасьвіліся каровы, коні, сьвіньні, авечкі і гусі. К восені ад канюшыны амаль што нічога не засталося і ня было надзеі, што яна адыдзе. Вясною ў гэтым годзе, як прасохла зямля, я ўвесь вучастак падзяліў удоўж папалам і адну палову паскародзіў. Перад скарадзьбой-жа гэты вучастак падзяліў яшчэ папалам упоперак і раскідаў па адной палове адгашаную вапну.

Дзякуючы таму, што такі вопыт рабіўся мною ўпяршыню, класьці многа вапны я баяўся. Высеяў з разьліку 80 пуд. на дзес. Скародзіў поле досыць стала, да чорнага. І калі на нескароджанай дзялянцы канюшына ўжо зазелянела, на скароджаным толькі пачыналі зьяўляцца першыя лісточкі.

Розьніцы паміж вапнаванай і невапнаванай дзелянкамі першыя м-цы амаль што ніякай ня было. Розьніца зьявілася толькі ў другой палове мая і то чуць заметная. Трэба сказаць, што дзякуючы падзолу на нашай глебе ўсё разьвіваецца значна пазьней, чым у другіх вёсках на супяшчанай.

Схэма досьледа:

| | | |
|---|---|---|
| I-я | дзял. | не скароджана і не вапнавана. |
| II-я | „ | скароджана, не вапнавана. |
| III-я | „ | не скароджана, вапнавана. |
| IV-я | „ | скароджана і вапнавана. |

У пачатку ліпеня м-ца розьніца паміж усімі чатырмя дзялянкамі кідалася кожнаму ў вочы. Канюшынішча мела такі выгляд:

На першай дзялянцы канюшына была густая, але дробненькая, мізэрная, многа рознага зельля, травы. Ужо зацьвіла.

На другой—радзейшая, але больш кусьцістая, сакавітая, чысьцейшая. На выгляд канюшына многа лепшая, чым на першай дзялянцы.

На трэцяй—канюшына густая, сакавітая, кусьцістая, багатая лісьцем, якое на выгляд аж сіняе. Толькі пачынаюць наліваццa кветкавыя галоўкі. Відаць цяпер у яе самы рост, але яна ўжо ў два разы лепшая, чым на першай дзял. Але самая лепшая канюшына на чацьвертай дзялянцы—чыстая ад зельля, кусьцістая, багатая лісьцем; яна нават аддзялілася ад трэцяй дзялянкі. Цьвісьці яшчэ ня думае.

Астатнія дзьве дзялянкі прышлося касіць праз два тыдні пасьля першых. Ураджай сена ў пераводзе на дзес. быў такі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| ураджай | І-й | дзялянькі . . . . . . . | 140 пуд. |
| „ | ІІ-й | „ . . . . . . . . | 180 „ |
| „ | ІІІ-й | „ . . . . . . . . | 220 „ |
| „ | IV-й | „ . . . . . . . . | 240 „ |

Лічбы самі за сябе кажуць. Адно скароджаньне падняло ўраджай сена на 40 п.; вапнаваньне без скароджаньня—на 80 пуд., а тое і другое разам на 100 пуд.

Зробім падрахунак: 80 пуд. вапны каштуе 48 руб., скароджаньне ня больш 5 руб. Усяго 53 руб.

Пуд звычайнага лугавога сена вясной у нас каштаваў звыш рубля. Выходзіць, што вапнаваньне і скароджаньне дало чыстага прыбытку звыш паўсотні рублёў на дзес. Сума немаленькая, каб ёю кідацца. Апрача гэтага кажуць, што вапнаваньне будзе мець вялікі ўплыў на падняцьце ўраджаяў і ў будучыя гады. (Пад авёс вясной 1925 г. клаўся гной 2.000 пуд. на дзес.).

П. А. Самцэвіч.

(д. Дакудава, Крупскага р.).

## Мой вопыт з турнэпсам.

Раней я сеяў турнэпс, але ў працягу апошніх трох гадоў, з прычыны адсутнасьці ў мяне насеньня, быў перарыў. У 1926 годзе пасаджаную мною капусту выбіў град. Было гэта у ліпені м-цы і дасадзіць ня было чым. У сваёй коопэрацыі я дастаў насеньня турнэпсу, і пасеяў на тых мясцох, дзе ня было капусты і дзе ня ўзышлі буракі. З прычыны позьняй пары, надзеі на добры ўраджай у мяне ня было. Але турнэпс рос. Мною сваечасова быў праполан і дагледжан. Увосень я зьняў ураджай, якога і ня чакаў. Пры праверцы аказалася, што ў сярэднім адзін корань турнэпсу важыў каля 4 кілёграмаў ($9^1/_2$ ф.). і гэта пры позьнім пасеве. Звычайна турнэпс дасягае да 6-8 кілёграмаў.

Сел. Р. Воўкаў.

(в. Касмынічы, Мсьціслаўшчына).

## Як прыбіраць насенны лубін.

### Насенны лубін даў даход 280 р. з дзесяціны.

Апрача поля, якое ўваходзіць у чатырохпалёвы севазварот, у мяне ёсьць яшчэ тры пескавыя бугры. Ад агульнага вучастку поля іх аддзяляюць даволі глыбокія равы, якія даюць сярэдні ўкос сена. Гною на гэтыя бугры давезьці трудна, чаму і прышлося там на ўгнаеньне сеяць лубін і дзеля гэтага мець сваё насеньне.

Насенны лубін я сею на тых жа бугрох, дзе завёў лубінавае трохпольле: 1) *жыта,* 2) *лубін насенны,* 3) *лубін на ўгнаеньне.*

Каб атрымаць сваё насеньнелу біну, патрэбна ўсё-такі практыка. Аб гэтым я і хачу сказаць.

У мінулым 1926 г. ў мяне на адным з бугроў было пасеяна $^1/_4$ дзес. насеннага лубіну. Сеяў я лубін па асеньняй воранцы і на $^1/_4$ дзес. высеяў $2^1/_2$ п.

У канцы жніўня лубін пасьпеў (струкі сталі чорнымі і бурымі).

Да 1-га верасьня яго вырвалі, зьвязалі ў снапы, падсушылі на полі, а далей асьцярожна падвезьлі яго к гумну і паставілі к сонцу пад страхою. Тут лубін сох дзён 10—14, а далей ён пераносіцца ў будыніну, дзе і ляжыць да самай вясны—часу малацьбы.

Малаціць лубін трэба цэпам і незадоўга да сяўбы. Сёлета вясною з $^1/_4$ дзесяціны я намалаціў 40 пуд., што па сярэдняй цане 1 р. 75 к. дасьць 70 р., а на дзесяціну 280 руб.

Так дарага насеньне лубіну таму, што кожны гаспадар хоча яго пасеяць, бо поле мае пустое, а скаціны і гною мала.

Шмат сялян пытаюць насеньня лубіну ня толькі вясною, калі трэба сеяць яго пад жыта, але хочуць купіць лубіну і летам, каб пасеяць пасьля прыборкі жыта.

Гэты спосаб угнаеньня поля пад авёс і бульбу таксама трэба раіць, але і ён патрабуе свайго насеньня лубіну.

Вось чаму я раю кожнаму селяніну ў гэтым годзе абавязкова заняцца насенным лубінам. Калі гаспадар ня сеяў лубін рана на насеньне, дык няхай спрабуе пакінуць хоць загон пазьнейшага. Сёлета лета сухое і цёплае, чаму і пазьнейшы лубін пасьпее і дасьць насеньне.

Пашырайце збор насеннага лубіну!

Лубін на зялёнае ўгнаеньне выратуе гаспадара пры нястачы гною.

(Байдацкі с./с.) **Пётра з Пустога Поля.**

---

# Вопыт прымяненьня торфу на ўгнаеньне.

Аб карысьці торфу ў сельскай гаспадарцы ўжо шмат гаварылася і пісалася, але наша сялянства ніяк ня можа дайсьці да таго, каб гэта дармовае багацьце з балот перакінуць на свае палеткі і гароды. Амаль што каля кожнае беларускае вёскі знаходзіцца тарфяное балота; у шмат якіх мясцовасьцях на сенажацях ці выганах, дзе раней знаходзілася тарфяное балота, торф ляжыць аграмаднымі пластамі. Ляжыць і карысьці ніякай ня дае, бо без прымяненьня да яго працы ён і ня можа даваць тэй карысьці, якую ён павінен і можа даць.

Я рабіў вопыт прымяненьня торфу на ўгнаеньне і вынікамі сам зьдзівіўся. Возьмем хаця-б вопыт 1925 году.

Пад восень, як балота высахла, калі на ім можна было свабодна працаваць, я з братам накапаў вазоў каля 30 торфу і перавёз яго ў свой гарод. Якасьць торфу была вельмі кепская; травяністы, не перагніўшы, кіслы. Але карыстаўся тым, што ёсьць.

Торф склаў у адзін груд, прычым пасьля чатырох вазоў клаў воз саломістага гною. Атрымаўся досыць вялікі груд торфу з праслоямі. Рабіў я гэта дзеля таго, каб торф выветрыўся і перагніў.

Вясною гэты груд раскідаў на гародзе плошчаю ў 180 кв. саж.; зараў яго і пасадзіў на гэтым кавалку гародніну: *гуркі, капусту, буракі, моркву, памідоры.* Ніякага іншага ўгнаеньня, апрача торфу, ня клаў.

Глеба на гэтым кавалку гароду была падзолістая, цяжкая, а гародніна вышла неспадзяваная. Ніколі на гэтым месцы яна такая не расла, нават на добрым угнаеньні. Сталовыя буракі дасягалі да 4-х фун., эліпсіс да 4 фун. Морква чырвоная нарасла аграмаднай, але палопалася і мела плямы іржы; прышлося яе скарміць скацінаю.

Гуркі былі лепшымі на ўсёй вёсцы. З капустай сталася горш: на ёй зьявілася *капусная кіла*. Ня ведаю і цяпер, скуль яна магла ўзяцца, але прышлося большую палову качаноў выкінуць. Тыя-ж, якія засталіся, вырасьлі аграмаднымі і даходзілі да пуда вагі.

У 1926 годзе, мінулым летам, на гэтым кавалку быў пакладзен гной (увосень 25 г.), з вясны я павёў вапнаваньне і паліўку карасінам і таксама пасадзіў капусту і турнэпс. Праўда, хворыя расьліны былі, але ўжо рэдка, ня столькі, колькі ў мінулым годзе. Гародніна таксама вышла вельмі добрая. Трэба дадаць, што глеба на гародзе стала мяккай і рассыпчатай.

Якую-ж карысьць даў торф? Звычайна, штогодна на гэты кавалак гароду клалася 10 вазоў гною і карысьць была малая, а адзін 1925 год даў прыбытку ад гароду звыш 30 руб., ня лічачы 26 год. Апрача гэтага, уплыў, торфу на глебу адчуваецца досыць значна ў гэтым 27 годзе. Цяпер паўстае пытаньне, чаму-ж селянін ня хоча такой выгаднай справы? Адказ можна даць адзін: наш селянін пакуль ня ўбачыць сваімі вачыма, не абмацае рукамі, не панюхае, дык ён ня дае веры.

(в. Дакудава, Крупскі р.) **П. А. Самцэвіч.**

---

# Як палучыць сваё насеньне буракоў.

Усякая гаспадарка можа здабываць насеньне кармовых буракоў праз пасадку высалак на сваіх гародах. Дзеля гэтага ўвосень з ураджаю належыць выбраць патрэбны лік самых сьпелых буракоў, сярэдняй велічыні з гладкім корньплодам. Бацьвіньне ў іх трэба абрэзаць прыблізна на 5 сантм. вышэй галоўкі. Адабраныя буракі на высадкі перахоўваюцца ў пограбе, паміж сухога жоўтага пяску, паложаныя радамі галоўкамі ўверх.

Вясною ў красавіку месяцы высадкі садзяць. Глеба пад імі павінна быць глыбока ўскопана рыдлёўкаю і наогул добра апрацована і ўгноена хлеўным гноем з дабаўленьнем 40—60 кілёгр. фосфарнай кіслаты, 20—30 кілёгр. калія і 20 кілёгр. азота на гэктар. На вучастку, які бярэцца для пасадкі высадак, праводзяцца ўдоўж і ўпоперак рыскі на адлегласьці адна ад аднэй на 60—70 сан. і ў мясцох, дзе перасякаюцца рыскі, садзяцца высадкі.

Як пачнуць высадкі расьці, каб папярэдзіць падлом сьцяблоў, трэба прывязваць іх да калочкаў ці хаця-б зьвязваць па некалькі разам.

Цьвісьці высадкі пачынаюць у канцы чэрвеня м-ца, а праз 50—60 дзён высьпявае насеньне. Сьцяблы з насеньнем зжынаюць сярпом, хаця яны яшчэ і зялёнаватыя, раскладваюць для прасушкі і праз нейкі час снапкі высадак складваюцца ў будыніне пасьля чаго, звычайна, малоцяць цэпам. Сьцяблы высадак могуць ісьці на апал, а самыя буракі—высадкі выкопваюцца і ў належным выглядзе ідуць на корм скаціне.

(Балта). **Лібах.**

---




## Як палепшыць справу з апалам.

За апошнія гады амаль што ў большасьці раёнаў Беларусі мы сустракаемся з вельмі дрэнным становішчам пры здавальненьні сялянства апалам. Тут даволі толькі ўспомніць зьезды і нарады, на якіх абмяркоўваюцца сялянскія патрэбы, каб бачыць, што найбольш балючым пытаньнем у жыцьці селяніна стала пытаньне здавальненьне яго апалам. Усюды, як на сходах, таксама на сельскіх і раённых зьездах і нават на акруговых ідзе скарга, што не даюць дроў. Калі лясьнічага сустрэнуць, дык толькі і чуешь: „Калі гэта дадуць дроў, як гэта жыць бяз дроў, ці ня можна дзе дастаць“ і г. д.

Само собою зразумела, што гэта сьведчыць аб тым, што сялянства сапраўды не здавальняецца ў належнай меры апалам, а ад гэтуль і нясуцца скаргі. Пры гэтым больш ўсяго дастаецца працаўнікам нашых лясьніцтваў.

Цяпер паглядзім, хто-ж сапраўдны вінаваты ў недахопе апалу. Дзеля гэтага трэба ўспомніць папярэднія артыкулы ў часопісі „Плуг“. Мы ведаем, што ўжо шмат чаго высьвятлялася ў розных галінах лясной гаспадаркі, між тым адзначалася, што лясістасьць Беларусі ня надта ўжо значная: толькі 25 проц. яе паверхні занята лесам, а гэта ўжо паказвае, што лесу ў нас ня так многа. Такую лясістасьць мае і Нямеччына, якая ўжо ня можа здаволіць патрэбны сваім лесам і шмат драўніны прывозіць з-замежных краёў, а сялянства там даўно карыстаецца торфам на апал, а дровы мае толькі на падпалку.

Другое, што адбіваецца на недахопе драўніны, гэта слабы запас і прырост у нашых лясох. Каб яго падняць вышэй, тады нашы лясы маглі-б у 2-3 разы даваць больш драўніны і на здавальненьне сялянства апалам. У сучасны момант лясная гаспадарка Беларусі стала на моцны грунт і паступова будзе павялічваць вытворчасьць дрэвастану. Але пакуль што ўсё такі прыходзіцца адзначыць, што ў бліжэйшыя гады павялічэньня ў здавальненьні апалам ня можа быць. З усіх зьвестак мы бачым, што ў сярэднім на Беларусі дроў на адну душу на 1927 і 1928 г. маецца прыблізна па 1-2 куб. мэтр., а калі перавесьці гэта на сям'ю (у сярэднім 5-6 душ на гаспадарскі двор), тады будзем мець, што кожны такі двор атрымае з дзяржаўнага ляснога фонду (0,5 х 6) 3 куб. мэтра дроў. Лічба 3 куб. мэтр. на двор, ёсьць сярэдняя па ўсёй Беларусі і, вядома, будуць месцы, дзе апалу сялянства палучыць больш, а будуць вёскі, што і па 3 куб. мэтр. ня хопіць на двор. Дзе будзе шмат лісьцяных дрэвастанаў, дык хоць там агульная лясістасьць і меншая, але апалу будзе больш і наадварот, пры пера-

вазе ў раёне хваёвых ці дубовых дрэвастанаў (якія даюць больш будаўлянай і падзелкавай драўніны) і пры значнай лясістасьці апалу будзе адпускацца шмат менш. Гэта зразумела, бо ня можа-ж дарагая будаўляная драўніна ісьці на апал.

Усім вядома, што лясная гаспадарка для падняцьця сваёй вытворчасьці патрабуе некалькі дзесяткаў гадоў, калі будзе знаходзіцца ў добрых абставінах, а то і шмат больш.

Такім парадкам, глянуўшы на становішча лясной гаспадаркі, мы павінны мець ня зусім вясёлыя думкі і само сабою напрошваецца пытаньне: „Што-ж трэба рабіць?“ Нават 3 куб. мэтр. апалу на год не здаволяць гаспадара. Трэба падумаць аб тым, як павялічыць здавальненьне апалам.

Мне здаецца, што гэтае пытаньне павінна быць абмяркована з двух бакоў:

1) Як павялічыць здавальненьне сялянства апалам у самыя бліжэйшыя часы і

2) Якія меры трэба прыняць, каб у будучым забясьпечыць сябе апалам на больш доўгі час.

Дзеля вырашэньня першага пытаньня трэба ўспомніць, што зараз яшчэ ў нас маецца ў лясох, як дзяржаўных, так і мясцовага значэньня даволі многа таго, што можна скарыстаць і тым забясьпечыць сябе апалам. Тут перш за ўсё трэба да лесу падысьці па гаспадарскі. Мы ведаем, што ўсе лясныя плошчы, усё такі значна захламлены. Усюды маецца той ці іншы валеж. На першы погляд здаецца, што ён нічога ня варт, а калі яго ў свабодны час назьбіраць нёкалькі вазоў, хоць і гнілога, то ўжо будзе на лета поўная забясьпека апалам. Сама гаспадыня з дзецьмі дасьць яму рады і турбавацца ня трэба. Зьбіраць яго таксама ня трудна, бо і падросткаў можна браць на гэтую работу. У кожным месцы его можна набраць за два тыдні на цэлае лета. Побач з гэтым можна назьбіраць ці высячы, дзе маецца, паніклыя тоўстыя галіны арэшніку і іншых падлескавых парод. Таксама можна загатаваць сухастою да 4-х вярш.

Каб спарней вясьці такую загатоўку, найлепш браць вучасткамі ў лесе падчыстку; тады адразу можна на невялікай плошчы ўсё разам падбіраць: розны павал, стары палеглы арэшнік і тонкі сухастой. Такая падчыстка шмат дзе дае добрыя вынікі. Мне здаралася бачыць, што такім парадкам некаторыя гаспадарлівыя сяляне ў два тыдні загатаўлялі па 20-30 вазоў featureрознага ламачча на апал і нават на такіх лясных вучастках, дзе штогодна робіцца падчыстка.

Потым трэба яшчэ зьвярнуцца да карчоў. У нас зусім мала дзе практыкуецца, каб старыя карчы скарыстоўваліся, а між тым яны на апал больш прыгодны, як якія дровы з пня, бо ў іх шмат смалы і трохі падсохшы яны вельмі добра гараць і даюць шмат цяпла. Тут яны ўжо зусім прыгодны на апал у самую марозную зіму. Капаць іх ня так ужо і цяжка, асабліва яловыя карчы, бо елка мае моцную карнявую сыстэму, якая сьцелецца ў паверхні глебы, чаму трохі падкапаўшы іх і перасекшы найбольш тоўстыя легка вырываць рукамі без усякіх іншых прылад. Найлепш даставаць карчы такія на нізкіх месцах, дзе грунтовыя воды стаяць блізка да паверхні; там карнёвая сыстэма ня ідзе глыбока, а часта і зусім выпіраецца на паверхню. Тут без вялікай натугі можна загатаваць карчоў з праданага раней ветравалу. У некаторых мясцовасьцях карчы зьяўляюцца чуць не галоўным апалам. Калі ведаць, што валежы яловыя карчы зараз адпускаюцца

дарма, дык трэба заўважыць, што гэты напрамак павялічэньня апалу павінен шырака практыкавацца.

Як падчыстку, так і здабычу карчоў лепш з ўсё праводзіць увосень, пачынаючы з канца лета, гэта значыць у той час, калі скончыцца ўся праца на полі, а заработкі, якімі найбольш зьяўляюцца загатоўка і возка лесу, яшчэ не пачаліся.

Акрамя падборкі валежа, дабычы карчоў і тонкамернага сухастою, можна яшчэ павялічыць загатоўку апала абчысткаю лесасек, на якіх заўсёды ёсьць хоць якая астача: трэскі ад загатоўкі шпал, верхаўё і гальлё.

Вось тыя галоўныя крыніцы, якія не ўвайшлі ў мой разьлік па здавальненьню сялянства апалам з дзяржаўнага ляснога фонду.

Мне здаецца, што яны маюць пад сабою грунт, каб на іх была зьвернута значная увага сялянства. Калі, напрыклад, прыкінуць, што гаспадар загатуе з валежа 5—6 вазоў дроў, накапае 2—3 мэтр. карчоў, прывязе 1—2 вазы гальля з абчысткі лесасек, і яшчэ атрымае ў лясьніцтве з сырарастучага лесу 2—3 куб. мэтр. дроў, ён можа быць спакойным, што забясьпечыць сябе апалом на цэлы год.

Вядома, кожны селянін па той ці іншай прычыне гэтага ў жыцьцё не правядзе, але-ж ён павінен бачыць, што гэта і ў большасьці можа быць праведзена ў жыцьцё.

Тут трэба адзначыць яшчэ, што ў лясох мясцовага значэньня таксама ёсьць магчымасьць, каб скарыстаць валеж, карчы, гальлё і сухастой. Калі зазірнуць у гэтыя лясы, то дівішся, чаму яны так запушчаны: падчыстка ня зроблена, верхаўё і гальлё валяецца, а пра суччо і гаварыць ня будзем, быццам яно ні на што не патрэбна, а яно пад рукамі і вельмі прыгадзілася-б у печку летам. На лесасеках (высечках) шмат пнёў у пояс чалавека.

Такі-ж малюнак маюць, і земфонды: нідзе ніякай раскарчоўкі, кругом тарчаць пні і пускаюць пасынкі, а гальлё ад мінулай высечкі гіне. Шмат можна было-б яшчэ падкрэсьліць, але і адзначанага даволі. Каб яго выканаць, тады можна быць пэўным, што здавальненьне сялянства апалам значна павялічылася-б, а адгэтуль усе і непаразуменьні з апалам зьнікнулі-б самі сабою.

Цяпер перайду да вырашэньня другой часткі пытаньня, якія прыняць меры, каб заўсёды мець апал у патрэбным ліку? Вось тут і прыходзіцца адзначыць, што як бы ні шмат было валежа, карчоў і інш., а ўсё-ж такі ім будзе канец і можа ў самай недалёкай будучыне. Жыцьцё само прымусіць выбраць усе запасы і чарговы водпуск у 3 куб. мэтры не здаволіць гаспадаркі. Тады прыдзеца шукаць новых спосабаў у напрамку павялічэньня апалу. Але каб ня было гэта раптоўным, трэба зараз-жа рыхтавацца.

Тут ёсьць больш менш грунтоўныя толькі два напрамкі, у якіх і павінна весьціся праца. Першае, гэта неабходна пашыраць лясную плошчу лясоў мясцовага значэньня там, дзе гэта магчыма, напрыклад, замацоўваць і засяваць лесам пяскі і пустыры, весьці добра лясную гаспадарку, каб падняць яе вытворчасць і падругое, трэба гуртавацца ў тарфяныя таварыствы, каб перайсьці на той апал, які ўжываецца ў сялян іншых краін, дзе ўмовы ў здавальненьні апалам такія, як і ў нас.

Вось, калі праводзіць у жыцьцё усе адзначаныя мерапрыемствы, дык можна быць пэўным, што недахопаў у апале ня будзе.

(Негарэлае). **Т. Гаўрыловіч.**

# Пра абрэзку суччa на дрэвах у лесе*)

У малалесных акругах Беларусі зьявіўся новы спосаб карыстаньня лесам—абрэзка сукоў з дрэва ў лесе.

Поруч з гэтым ёсьць новыя спосабы і ў здабываньні дроў у лесе: збор павалу, зрэзваньне высокіх пнёў, часамі выкарчоўваньне іх, збор на апал гальля і хмызьняку. Такія спосабы павялічваюць запасы дроў і аздараўляюць лес. Цяпер усім зразумела, што лясныя багацьці Беларусі значна вычэрпаны і нам нельга на дровы калоць тоўстыя пні сасны і елкі, а паліць толькі тым, што няпрыгодна на будоўлю, розныя вырабы і на хэмічную перапрацоўку. Вось таму трэба ўсё больш і больш прызвычайвацца да таго, каб з лесу вазіць да дому і верхавіны, і хмызьняк, і павал, і карчы, а ня толькі добрыя пні.

Дравянога апалу ўжо і цяпер не хапае месцамі, а з кожным годам яго будзе рабіцца ўсё менш і менш. Дзеля гэтага ня трэба гнаіць хмызьняк і карчы ў лесе, а трэба іх вазіць да дому.

Да абрэзкі-ж суччa ў стаячых і жывых дрэў трэба падыходзіць асьцярожна. Вялікая рана ад зрэзанага жывога сука доўга не зажывае; заражаецца насеньнем паразітнага грыбка, якія носяцца ў паветры; ад гэтага загнівае ствол і псуецца.

Падругое, абрэзка суччa паменшае лік маладых галінак і лісьця або хвойных ігліц, а праз гэта паменшаецца прырост драўніны. Гэта бывае таму, што новыя кружкі ствала дрэва растуць з матэрый, якія здабываюцца лісьцямі і хвойнымі ігліцамі з паветра і сокаў зямлі. Вось таму і шкодна зрэзваць жывыя сучкі і галінкі на дрэвах.

Зусім іншая справа—абрэзка мёртвых сукоў. Калі мы ў жывога дрэва асьцярожна абрэжам толькі тыя сукі і галіны, якія ўжо ссохлі і ня маюць лісьця, то такая абрэзка будзе ня шкодна, а карысна для дрэва. Калі сухі сук абрэзаны вострай пілкай і абрэзан гладкім зрэзам, блізка ад камля і пры тым так, каб кара каля месца зрэзу ня была паранена, дык ён хутка і добра зацягнецца, а бервяно ці дошка з такога камля палучыцца бяз выпадваючых сукоў.

Прымаючы пад увагу ўсё вышэй сказанае і на падставе вопытаў, якія рабіліся ў замежных культурных лясьніцтвах, можна даць такія правілы абрэзкі суччa ў лесе:

1. Нельга абрэзваць жывых сукоў на дрэве. Яны патрэбны дрэву для пабудовы прыроста драўніны.

2. Умелае абрэзваньне сухіх сукоў карысна і для дрэва і для лесу, бо ратуе лес ад пажараў і некаторых хваробаў.

3. Зрэз сука павінен быць гладкім, бо шурпаватая паверхня доўга не зарастае. Нельга сухіх сукоў зьбіваць, а можна толькі абразаць вострай пілкай, вострай маленькай сякеркай, вострым шырокім долатам ці іншымі зручнымі інструмантамі.

4. Сукі трэба абрэзваць каля самога ствала і ня пакідаць пяньков. Толькі тады, калі сук яшчэ ня зусім засох, а мае частку кары і дрэвясіны яшчэ жывой, тады трэба пакідаць невялічкі пянёк. Бяз гэтага ў жывых сукоў лёгка задзіраецца кара зьнізу, а пад задранай карой затрымліваецца вада і пачынаецца гніль.

5. Каб кара зьнізу не задзіралася, трэба зьнізу сучок альбо падсячы альбо падпілаваць вострай з дробнымі зубамі пілкай, а пасьля ўжо пілаваць яго зьверху. Паверхня зрэзу пасьля згладжваецца.

*) Артыкул друкуецца са скарачэньнем (Рэд.).

6. Вялікія сукі карысна зрэзваць не за раз, а за два разы. Спачатку можна зрэзваць верхнюю частку сука і пакінуць каля ствала пянёк на вяршкоў 10-20. Пасьля-ж адрэзваюць пакінуты кусок каля самага ствала.

7. Пачынаць абрэзваць сукі (сухія) у дрэва можна тады, калі яно мае 23-25 гадоў і то пры вялікай гушчыні лесу, бо толькі ў гэтым веку на ствалох дрэў зьбіраецца шмат сухіх сукоў, а карона дрэва падымаецца да вышыні $4^1/_2$—5 мэтраў (6-7 арш.).

8. Паўтараць абрэзку сухіх сукоў трэба прыблізна праз каждыя 10 гадоў, гледзячы як расьце дрэва.

9. Адміраючыя дробныя пасынкі ўнізе камля карысна таксама адрэзваць, але пры тых-жа правілах.

10. Сьпілоўку сукоў у лесе трэба прыстасоўваць да таго часу, калі ідзе прарэджваньне лесу альбо робяцца праходныя рубкі. Усю работу трэба весьці пад кіраўніцтвам і наглядам ляснога тэхніка. Дзеля таго, што ў палучэньні таннага апалу зацікаўлены сяляне, дык наладжваючы абрэзку сухіх сукоў, трэба загадзя вызначыць дзень і месца абрэзкі і аб гэтым паведаміць усіх сялян бліжэйшых вёсак.

Увесь тэхнічны і адміністрацыйны лясны пэрсанал павінен быць прысутны пры абрэзцы.

11. Карысна час і месца абрэзкі суччa аддзяляць ад збору валежніку, гальля і хмызьняку у лесе. Нагляд за зборам валежніку і хмызьняку можна даручыць ляснoй стражы, тымчасам як абрэзка сукоў патрабуе разуменьня жыцьця дрэва і можа быць даручана толькі лесаводу, пад наглядам якога павінна абрэзвацца кожнае дрэва.

12. Вопыты паказалі, што лепш і лягчэй за ўсё раны зажываюць, калі абрэзка робіцца раньняй вясною, да таго як пачынае цячы сок. Горш зажываюць раны, але ўсё-ж можна абрэзваць суччa, позьняй восеньню альбо ў пачатку зімы. Яшчэ горш зімою. Летам рабіць абрэзку ніяк ня можна.

Зьяўляецца пытаньне, ці акупае сябе гэтая абрэзка сукоў. Замежныя краіны даўно ўжо праводзяць яе і яна заўсёды акупаецца. Вопыты ў нас паказалі, што яна акупаецца. Адзін мужчына і дзьве жанчыны нарыхтуюць за дзень 120 пучкоў дроў з сухіх зрэзаных сучкоў, а прызвычаіўшыся можна і больш выгнаць. 120 пучкоў—гэта каля 10 куб. мэтр. (каля 1 куб. саж.).

Каб абрэзваць сукі як сьледуе, трэба завесьці спэцыяльныя інструманты: пілу Алерса, пілу-кій Шырмера, пілу Нольцэ, штыкавідную пілу Гэпера, добрую звычайную садовую пілу, стальны касар Дзітмара, шырокае стальное долата з доўгай ручкай. Інструманты гэтыя можна заказаць ці зрабіць пад наглядам вопытнага лясьнічага.

Якія дрэвы лягчэй за ўсё пераносяць абрэзку і якія не пераносяць яе? З цьвёрдых дрэў найлягчэй зажываюць раны ў дуба і граба; таксама добра—у ясеня, ільма, вяза і бярэста, але ў ясеня часта пасьля абрэзкі бываюць надтрэснутыя месцы. Вельмі дрэнна зарастаюць раны ў клёна. З мяккіх парод дрэў ліпа лягчэй за ўсё пераносіць абрэзку. Бяроза, асіна, таполя, вярба пераносяць абрэзку дрэнна, бо раны іх хутка загніваюць. Вольха часта пасьля абрэзкі таксама трэскаецца. З хвойных дрэў раны зажываюць лягчэй у лісьцьвеньніцы, затым у піхты, горш у сасны і яшчэ горш у ёлкі. Значыць, тым больш асьцярожней і тым акуратней трэба рабіць гэтую работу ў елкі і сасны.

(г. Горкі). Проф. **С. П. Мельнік.**

---

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ

## Аб залужэньні балот.

У нашых умовах вялікае значэньне маюць сенажаці, дзякуючы чаму асаблівую каштоўнасьць набывае справа вырабу каштоўных кармовых лугоў з балота.

Пераход балота ў сенажаць—*залужэньне балота*, набывае яшчэ большае значэньне ў зьвязку з тым, што нават тады, калі балота заворваецца і займаецца пасевам аўса, жыта, бульбы і інш., яно праз 2-3 гады павінна быць занята лугам, бо іначай сарнякі так разрастуцца, што пашкодзяць далейшаму вырабу балота.

Перш-на-перш прызначанае для залужэньня балота трэба так асушваць, каб была магчымасьць яго вырабляць.

Само залужэньне па назіраньнях і досьледах Забалацкай балотнай дасьледчай гаспадаркі лепш усяго зрабіць з восені на працягу жніўня м-ца і ніяк не пазьней першых 10-ці дзён верасьня, бо пазьнейшыя засевы выходзяць значна горш.

Заворваецца прызначанае пад залужэньне балота звычайна ў канцы ліпеня ці ў пачатку жніўня і пасьля лёжкі 1-2 тыдняў у пластох добра выробляецца дыскавай бараной; зараз-жа ўносяцца мінэральныя ўгнаеньні (іх таксама трэба паскародзіць); пасьля гэтага расьсяваецца мешаніна траў і ўкатваецца вальцам.

Нормы ўгнаеньня, якія пры гэтым уносяцца, залежаць ад характару балота, але ў сярэднім можна раіць 15 пуд. калійнай солі і столькі тамасаўкі (на дзес.).

Уважлівей трэба адносіцца да пытаньня са складам мешаніны.

Забалацкая балотная гаспадарка, дзе водны рэжым да гэтага часу ня быў яшчэ ўрэгуляваны, дасьледвала шэраг мешанін і выявіла, што з посьпехам можна прымяняць з насеньня нашага рынку толькі цімафейку і канюшыну швэцкую, а іншыя травы, якія могуць быць карыснымі, ці зусім адсутнічаюць на рынку, ці надта дарагія.

У бягучым годзе найбольшы ўраджай на дасьледчых дзялянках далі мешаніны з бакманіяй, тады як мешаніны з іншымі лугавымі травамі, у зьвязку з тым, што дзялянкі былі 2 разы затоплены і грунтовая вада стаяла высока, былі значна горшымі.

Насеньне бакманіі, лісахвоста і канарэйніка сабраны балотнай гаспадаркай. З часам яна зможа прадаваць іх. Але да таго часу пакуль насеньне гэтых траў можна будзе купляць на рынку, трэба карыстацца тым, што ёсьць і з гэтага боку прыходзіцца падыходзіць да пытаньня аб складзе мешаніны.

Як было ўжо зазначана, асаблівае месца трэба адвесьці цімафейцы, якой трэба браць 45-50 фун. на дзес.; да яе можна дадаць да 20 фун. купкоўкі і мурожніцы (разам), калі яны знойдуцца ў продажы і, ўрэшце, каля 15 фун. швэцкай канюшыны. Такім чынам, усяго мешаніны прыдзецца на дзес. 75-85 фун.

Калі няма купкоўкі і мурожніцы, можна павялічыць колькасьць цімафейкі да 60 фун. і тады мешаніна складаецца з цімафейкі і шведскай канюшыны. Калі-ж здарыцца, што і канюшыны ня будзе, дык магчыма абмяжавацца аднэй цімафейкай (60 фун. на дзес.) ці перанесьці засеў на вясну, тады да цімафейкі можна будзе дадаць чырвонае канюшыны (засеў яе на зіму рэдка бывае добрым); пры гэтым мешаніна складаецца з 45-50 фун. цімафейкі і 15-20 ф. чырвонае канюшыны.

Трэба зазначыць, што веснавы засеў мешаніны (майскі) таксама можна параіць і ён дапускае два спосабы: 1) *засеў мешаніны пад пакроў аўса і* 2) *чысты засеў мешаніны.*

Пры першым спосабе, пасьля апрацоўкі, ўгнаеньня і засеву аўса, поле скародзіцца талеркавай бараной, потым расьсяваецца мешаніна траў і ўсё разам укатваецца. Пры другім спосабе парадак працы такі самы, як і пры асеньнім засеве.

Выбіраць спосаб засеву трэба ў залежнасьці ад чыстаты поля, г. зн. чым чысьцейшая поле, тым лепшым будзе веснавы беспакроўны засеў.

Калі-ж на полі зьявяцца сарнякі, зялёная маса, якая прадстаўляе сабой мешаніну засеўных траў і сярнякоў, косіцца, пасьля чаго мешаніну, як яна пачне адрастаць, ачышчаюць ад сарнякоў. Пры пакроўным засеве траў таксама бывае прыходзіцца касіць зялёную масу, калі поле вельмі зарасьце сарнякамі.

Залужанае з восені балота дасьць ў наступны год два ўкосы травы; пры веснавым-жа залужваньні ў залежнасьці ад спосабу будзе адзін укос ці зусім атава.

У далейшым такі штучны луг на балоце косіцца штогодна 2 разы, але пры ўмовах, што яму будуць зварачаць страчаныя ім пажыўныя мінэральныя солі. Гэта значыць, што штогодна, пачынаючы з 2-га года карыстаньня, з вясны на луг уносяць 10-12 пуд. калійнай солі (на дзес.) і праз год столькі-ж тамасаўкі. Апрача ўгнаеньня вясною, карысна з восені пасьля 2-га ўкосу прыкатаць луг цяжкім вальцам.

Прытрымліваючыся гэтых заўваг і захоўваючы поле ад выпасу скацінай, магчыма такі луг захаваць на доўгі час і гаспадар можа быць упэўнен, што замест недахопу, ён будзе мець з дзес. залужанага балота кожны год 2 укосы з сярэдняй колькасьцю сена ў 350 пуд. з дзесяціны.

А. Шохар.

---

# Торф трэба капаць організавана.

Па вёсках торф яшчэ капаюць не організавана, а кожны гаспадар капае там, дзе яму падабаецца і за некалькі год наробяць столькі ям, што і скаціне нельга прайці. Бываюць выпадкі, што каровы завальваюцца ў ямы. Апрача таго, ад такіх ям псуецца ў два разы больш сенажаці.

Вось чаму Савецкая улада стараецца організаваць у кожнай вёсцы торфяное таварыства. Напрыклад, па Кайкаўскаму с-с. у 6 вёсках організаваны такія т-вы, але спэцыялістыя па торфу з свайго боку ня далі яшчэ кіраўніцтва, як і дзе капаць торф, а ў некаторых вёсках і няма дзе капаць торф.

Шмат сялян і сёлета капаюць торф паасобку. Як відаць, нашы гаспадары яшчэ не разумеюць той карысьці, якую можна атрымаць капаючы торф арганізавана. Гэта я падкрэсьлю з свае ўласнае практыкі.

У нашай вёсцы Бардзілаўцы ня ўсім гаспадаром хапае капаць торф у адным урочышчы, дык мы, 12 гаспадароў, капаем у другім месцы. Капаючы торф арганізавана, мы ніякіх меж не пакідалі. Такім чынам, мы капаем торф бяз ям.

Адным словам, лепш капаць торф арганізавана, але трэба, каб тут дапамагалі тэхнікі.

Сел. А Івановіч.

(Бардзілаўка, Самахвалаўскі р.).

---

# Бардзілаўскае мэліорацыйнае т-ва.

*(Самахвалаўскі раён, Меншчына).*

За апошнія гады ў вёсцы Бардзілаўцы было шмат падзелаў ад чаго стала больш гаспадарак, якія пачалі даваць менш прыбыткаў, бо зямлі стала менш, а жывёлы больш. У гаспадарох не хватае корму пракарміць жывёлу, к таму сенажаць пачала даваць малыя ўкосы, бо ўся сенажаць балотная і деесяціна дае прыблізна 25-30 п. дрэннага балотнага сена. Сяляне ня ведалі, як выйці з бяды. У 1925 годзе паказаўся да нас аграном НКЗ т. Пятроўскі. Сяляне зьвярнуліся да яго за парадай, як палепшыць сенажаць. Аграном раіў выхад, ён казаў што на кепскім балоце можа парасьці авёс, выка і іншая расьліна. Сяляне зьдзівіліся, што на балоце можа парасьці замест 25 пуд. 250-300 пуд. добрага сена і прасілі, каб у нашай вёсцы гэта зрабіць. Тав. Пятроўскі раіў арганізаваць мэліорацыйнае т-ва і весьці працу гуртам і арганізована. Сяляне на гэта згадзіліся і арганізавалі т-ва.

Т-ва пачало працу з гэтага году. Пад паказальны вучастак занялі адну дзес. Ужо ўзялі ў Белсельбанку 1.200 руб. крэдыту на 12 дзес., якія ў сёлетнім годзе асушылі. Праведзена магістральная канава 12 вёрст, а балота наша мае 150 дзес. Балота гэта тэхнікі прызналі годным для культуры, бо яно мае запасы фосфара.

Можна спадзявацца, што нашу вёску выручыць мэліорацыя ад бяскорміцы. Цяпер ужо па Кайкаўскаму с-с. арганізавалася пяць мэліорацыйных т-ваў.

Сяляне, пашырайце мэліорацыю балот.

Сел. А Івановіч.

(Бардзілаўка, Самахвалаўскі р.).

---

# Жывёлагадоўля



## Мае нагляданьні за кармленьнем быдла ў 1926 годзе.

Летам 1925 г. да мяне прыягджалі аграномы тав. Холад і Драздоўская і сказалі, каб я зрабіў досьлед над каровамі па кармленьню і догляду. Я стаў важыць кожны месяц корм і запісваць у штодзеньнік. Малако важыў праз кожныя 10 сутак адзін раз. Кароў у нас 3 дойных і адна нецель. Адна карова („Рабая“) помесь сіменталя, адна („Рагуля“) палепшанай сялянскай пароды і ад быка Швіца, адна палепшаная мясцовая „Белка“ і нецель „Маруся“. Вага кароў першых двух па 24 пуд., „Белкі“—17 пуд. і нецелі—15 пуд. Узрост кароў „Рабай“ 10 год, „Рагулі“—7 год., „Белцы“ і нецелі па $2^1/_2$ гады. „Рабая“ цялілася 8 раз, „Рагуля“ 3 разы і „Белка“ 1 раз. Усе каровы кормяцца з дацкіх кармушак. Хлеў мы пабудавалі цёплы, з вокнамі і стольлю ад чаго корму пашло менш, а прыбытак стаў большы.

Вось якія ўдоі былі на працягу году ў квартах. Карова даілася 3 разы ў дзень, а ўдой зважваўся тры разы ў месяц (1,11,21).

Далей паказваю ведамасьць удояў:

| МЕСЯЦЫ | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Сьнежань | За год (ведзер) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Удой малака ў квартах: | | | | | | | | | | | | | |
| „Рабая“ . . . | 115 | 105,5 | 90 | 64 | 55 | 520 | 424 | 381,5 | 360 | 330 | 285 | 217 | 149,4 |
| „Рагуля“ . . . | — | 397 | 418 | 445 | 445 | 400 | 400 | 382 | 325 | 267 | 105 | — | 221.9 |
| „Белка“ . . . | — | 80 | 279 | 290 | 310 | 300 | 310 | 289 | 250 | 237 | 195 | 135 | 132,7 |

„Рабая“ цялілася 26-га красавіка 1925 г. і 31 мая 1926 г., „Рагуля“—у лютым 1925 г. і 18 студзеня 1926 г., „Белая“—25-га лютага 1926 г.

| МЕСЯЦЫ | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасе ь | Кастрычнік | Лістапад | Сьнежань | За год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Цана 1 кв. малака ў капейках . . | 10 | 10 | 10 | 9 | 8 | 8 | 8 | 8 | .9 | 10 | 11 | 12 | — |
| Кошт удою ў руб.: | | | | | | | | | | | | | |
| „Рабай“ . . . | 15.5 | 10,5 | 9,0 | 6,4 | 5.0 | 41,6 | 33.9 | 30,6 | 32,4 | 33.0 | 31,4 | 16,0 | 275.3 |
| „Рагулі“ . . . | — | 39,7 | 41,8 | 40,5 | 40,0 | 32,0 | 32,0 | 30.5 | 29,2 | 26,7 | 11,5 | — | 323.9 |
| „Белкі“ . . . | — | 8,0 | 27,9 | 26,1 | 24,8 | 24,0 | 24.8 | 23.1 | 22,5 | 23,7 | 11.4 | 16,2 | 241,5 |
| Усяго . | 15,5 | 58,2 | 78,7 | 73.0 | 69.8 | 97,6 | 90.7 | 84,2 | 84,7 | 83.4 | 64,3 | 49,2 | 840,7 |

У корм каровам давалася азімая і яравая салома, мякіна, сечка, сена мурожнае, сена сэрадэлі ці выкі, бульба, высеўкі, мука, выка зялёная, соль.

Вясною і летам каровы падкармліваліся сечкай, бульбаю і мукою, зялёным кормам.

У кармовых адзінак па месяцах корму давалася наступная кольласьць:

| Месяцы / Каровы | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Сьнежань | У год карм. адзін. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| „Рабай“ . . . | 390 | 345 | 390 | 357 | 206 | 100 | 105 | 58 | 38 | 180 | 347 | 353 | 2874 |
| „Рагулі“ . . | 390 | 369 | 421 | 387 | 237 | 130 | 105 | 68 | 38 | 211 | 377 | 389 | 3122 |
| „Белцы“ . . | 200 | 170 | 200 | 191 | 113 | 55 | 29 | 29 | 26 | 160 | 210 | 217 | 1600 |

На адну кармовую адзінку бралі: саломы азімай 6 ф., яравой саломы і мякіны 4 ф. сена (выкі)—2,7 ф., высевак і мукі па 1 ф.

Увесь корм на тры каровы каштаваў 320 руб., расцэньваючы яго па цане кожнага м-ца. Тут паказваю толькі сярэднія цэны за люты м-ц. (за пуд. у кап.):

| | | | |
|---|---|---|---|
| Салома | азімая—35 к. | сена мурожнае— | 60 к. |
| „ | яравая—40 „ | бульба . . . .— | 30 „ |
| „ | мякіна—40 „ | высеўкі . . .— | 70 „ |
| „ | выка —70 „ | мука . . . .— | 120 „ |

Агульны-ж расход для трох кароў за год складаў у руб.—

| Расход: | | Даход: | |
|---|---|---|---|
| Корм . . . . | 320 р. — | 504 вядры малака на суму . | 840 р. 70 к. |
| Страхоўка . . . | 2 „ 67 к. | Ад продажы траіх цялят . . . | 26 р. — |
| Налог . . . . | 17 „ 62 „ | Усяго | 866 р. 70 к. |
| Пастух . . . . | 30 „ — | | |
| Злучка . . . . | 6 „ — | | |
| Догляд . . . . | 240 „ — | | |
| Усяго | 616 р. 29 к. | | |

*Чысты прыбытак ад трох кароў 250 р. 41 к., а на адну 83 р. 47 к.*

Некаторыя скажуць, што мала даецца кармовых адзінак, але я скажу, што ніводная сянінка ў мяне ў глум ня ідзе: усё зьядаецца да чыста. Хлеў цёплы, што таксама зьберагае корм.

З усяго напісанага і паказанага ў табліцах відаць, на колькі сходна трымаць кароў у цёплым хляве з кармушкамі. Але, каб лепш збыць малако, даставіць макуху і высеўкі, неабходна з'арганізавацца ў малочную арцель і тады каровы нашы пойдуць угору. Па маіх лічбах можна шмат чаму навучыцца.

Гаспадары, карміце кароў па нормах і галоўнае ўсё запісвайце, тады будзеце ведаць даходны вашы каровы ці не.

Цяпер трэба жыць з адкрытымі вачыма. Кароў трэба выцягнуць з халодных хлявоў і даваць ім корм на стале ў кармушцы.

Сел.-дасьлед. **А. Карнейчык.**

---

# Выкарм лягчаных сьвінак і кабаноў.

Распаўсюджан погляд, што кабанчыкі адкармліваюцца лепш за сьвінак. Вось, чаму кожны гаспадар імкнецца пакінуць на выкарм пераважна кабанчыкаў, а сьвінак збывае за паўцаны і ад гэтага церпіць страты.

Але ня кожны з іх мусіць ведае, што магчыма і сьвінак лягчаць у маладым узросьце і тады яны растуць і адкармліваюцца ня горш кабанчыкаў, калі опэрацыя зроблена правільна і цечкі ў сьвінак ня бывае.

Опэрацыя гэта лёгкая і балячка хутка зажывае.

Турская дасьледчая станцыя ўжо некалькі год назад пачала рабіць досьледы ў гэтым напрамку. Першы досьлед быў зроблен на 2-х сьвінках але опэрацыя ня ўдалася і сьвінкі ня выжылі. У наступным годзе досьлед прайшоў з большым посьпехам, а ў 1925 г. лягчалі ўжо 8 сьвінак і 9 кныроў.

Опэрацыі рабіліся па кітайскаму спосабу, пры якім вырэзваюцца яічнікі. Некаторым перарэзвалі толькі яйцавод, але ў гэтых сьвінак наглядалася потым цечка, хаця на працягу ўсяго некалькіх гадзін. Плямянікі хадзілі разам, але запладненьня ня было. Гэта опэрацыя была зроблена вэтэрынарным фэльчарам Я. К. Сакаловым і прашла з поўным посьпехам.

У 1927 г. лягчалі ўжо 12 сьвінак 8-10 месячн. узросту і на гэты раз опэрацыя дала добрыя вынікі, хаця ўзрост сьвінак быў небясьпечны; апрача таго, сьвінкі былі жырныя, а гэта таксама мала спрыяе опэрацыі. Опэрацыя дала добрыя вынікі і цяпер сьвінкі і кабанчыкі добра адкармліваюцца.

Досьлед адкорму зьлягчаных сьвінак і кныроў ў 1926 г. ставіўся так: з асеньняга парашэньня 1925 г. лягчалі 8 сьвінак і 9 кныроў ад 3 да 4 м-цаў; гадаваліся яны ў аднолькавых умовах. У 1926 пасьвіліся разам з сьвіньмі. З жніўня іх пачалі патроху падкармліваць пажыўным кормам, падрыхтоўваючы іх да адкорму; з верасьня іх паставілі на адкорм. Кармілі сьвіней па нормах Кельнера. Корм складаўся з мяшанай мукі, макухі, бульбы і сыроваткі. Пастаўленых на адкорм сьвіней штомесяц важылі, каб наглядаць за прыростам жывой вагі, а таксама, каб выявіць % павялічэньня корму.

Вось вынікі, якія даў нам гэты адкорм.

За ўвесь час было зьедзена:

| | Мукі розн. | Макухі льнян. | Бульбы | Сыроваткі | Усяго корм. адзін | Далі прырост | На 1 ф. прыроста патр. карм. адзін. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1) Кабанчыкамі . . . | 162 п. 36 ф. | 15 п. | 432 п. | 528 п. | — | — | 7.2 |
| У карм. адзінак . . . | 6516 | 640 п. | 4320 | 2112 | 13588 | 46 п. 35 ф. | — |
| 100 карм. адзін. далі . | — | — | — | — | — | 13,8 ф. | — |
| 2) Сьвінкамі , . . . | 133 п. 14 ф. | 14 п. | 383 | 672 | — | — | — |
| У карм. адзінк. . . . | 5334 | 560 | 3830 | 2688 | 12412 | 42 п. 20 ф. | 7,3 |
| 100 карм. адзін. далі . | — | — | — | — | — | 13,7 ф. | — |

Як відаць з гэтай табліцы, вынікі па выкарму сьвінак і кабанчыкаў амаль што роўныя; адна дзесятая, на якую разыходзяцца лічбы, ня можа прымацца пад увагу.

Сялянства вельмі зацікаўлена гэтымі досьледамі. Два гаспадары па прыкладу станцыі лягчалі сьвінак на адкорм. Опэрацыя была зроблена 3 і 5 месячным сьвінкам і дала добрыя вынікі.

Лягчаньне сьвінак павінна знайсьці шырокае прымяненьне ў сялянскай гаспадарцы, бо яно дасьць магчымасьць пакідаць на выкарм больш парасят і лепшай якасьці, ня гледзячы на тое кабанчык гэта ці сьвінка і гэтым пашырыць даходнасьць сьвінаводзтва.

**М. Юнгер.**

---

# Скотныя магільнікі і іх значэньне ў барацьбе з заразьлівымі хваробамі жывёлы.

**Сяляне, будуйце ўсюды скотныя магільнікі. Гэта найлепшы спосаб барацьбы з заразьлівымі хваробамі.**

Кожны год, як толькі прыдзе вясна і лета, у нас заўсёды зьяўляюцца заразьлівыя хваробы на скаціну. Ёсьць такія мясцовасьці, дзе заразьлівыя хваробы ніколі ня выводзяцца. Зімою прыціхаюць, а вясною і летам ізноў зьяўляюцца. Часьцей за ўсё гэта таму, што няправільна робіцца закопваньне трупаў жывёлы, якія застаюцца часамі наверсе.

Зараза можа доўга захоўвацца ўнутры трупа і вясною разносіцца вадою ўсюды. Каб пазбавіцца гэтага, трэба трупы жывёлы закопваць так, каб не маглі дастаць ні сабакі, ні сьнегавая, ні даждавая вада. Закопваць іх трэба там, дзе не пасецца скаціна і дзе няма блізка рэчак, а ня ў лагчынах, куды можа нацячы вада. Вада, якая абмыла труп, робіцца заразьліваю і таму разносіць заразу там, дзе яна цячэ. Скаціна, якая напілася такой вады, заражаецца той жа хваробай. Сабакі, якія адкапваюць трупы разносяць гэтыя кускі падлы па полі і па дварох. Часта бывае, што месца, дзе закопваюцца трупы, бывае забруджана крывёю ад трупа, якая часамі цячэ з носа ці з задняга прахода трупа. Калі на гэта месца пападзе здаровая скаціна, дык і яна таксама заражаецца хваробай. Таму, трэба закопваць трупы ў такіх месцах, куды бы здаровая скаціна папасьці ня магла.

Вось для таго, каб закопваць трупы, як сьледуе, трэба ўсюды рабіць скотныя магільнікі.

Скотны магільнік трэба рабіць на ўзгорку, у сухім месцы дзе няма ні рэчак, ні вазёр, далёка ад дарогі і тых месц, дзе жывуць людзі. Каб скаціна і сабакі не маглі туды папасьці, трэба магільнік агароджваць плотам. Каб даждавая вада з магільніка не разьлівалася, трэба яго па-за плотам акапаць глыбокаю і шырокаю канаваю. На месцы праезду у магільнік трэба зрабіць мосьцік і паставіць шчыльна зачыняючыяся вароты. Магільнік трэба рабіць у такім месцы, у якоеб заглядалі праменьні сонца, якія забіваюць ўсякую заразу. Трэба заўсёды пільна сачыць, каб магільнікі не размывала вада, каб не разрывалі трупаў сабакі, каб праз плот скаціна не магла пралазіць і каб ўнутры была канава, якая затрымоўвала-б ваду з магільніка.

Усе трупы павінны быць закопаны ў зямлю на глыбіню ня менш як 3 арш. Але перад тым, як труп зваліць у яму, яе трэба напоўніць гальлём, саломай ці сухім бур'янам.

Трэба гэта ўсё запаліць і, як полымя добра ахопіць ніжнія галіны, тады трэба валіць труп, разгарнуўшы кругом разгарэўшаеся гальлё, труп завальваць зямлёю. Шкура тады абсмаліцца і ад гэтага зараза ў глебу не праходзіць, а сабакі абсмаленага трупа кусаць ня могуць. Асабліва акуратна трэба рабіць гэта абсмальваньне пры сібірской язьве. Месцы, дзе закопаны трупы, трэба пасыпаць неадгашанай вапнай, альбо выпаліць саломай ці гальлём. Дзеля таго, што зімою трудна бывае капаць ямы, то нарыхтаваць іх трэба яшчэ з восені. Вельмі часта бывае, што вясною, дзе закопаны трупы, робяцца правалы і таму вясною трэба абавязкова аглядаць кожны магільнік і засыпаць ўсе правалы.

Перавозіць на скотныя магільнікі трупы, асабліва паўшых ад заразьлівых хваробаў, трэба па магчымасьці на адмысловых вазох, якія заўсёды павінны стаяць на самым магільніку і ні на што іншае ня брацца. Падчас перавозкі трупаў трэба сачыць за тым, каб з носа, рота ці задняга прахода нічога па дорозе не цякло. Тыя месцы, адкуль цячэ, трэба затыкаць анучамі ці саломай. Каб да трупа не маглі дакрануцца мухі, яго трэба накрываць саломай ці рагожай.

Вось і ўсё, тое, што трэба помніць, каб трупы не маглі заражаць здаровай скаціны.

Вэтэрынар **Жарын**.




# Ці трэба ўжываць ямную пасадку прышчэп.

Амаль ва ўсіх падручніках па садоўніцтву радзяць перад пасадкай прышчэп у сад капаць ямы загадзя. Часта капаюць ямы ўвосень, каб пасадзіць дрэвы вясною.

У восень 1921 г. на Горацкой дасьледчай станцыі пры аднаўленьні саду было выкапана да 20 ям глыбінёю да 70 см. (1 арш.). Грунт марэна з глінай і каменьнямі. Вясною 1922 г., калі трэба было высаджваць прышчэпы, у ямах аказалася шмат вады. Пучкі на дрэвах расьпусьціліся, а ямы ня перасыхалі. Гэтакі ня давялося скарыстаць зробленыя ўвосень ямы.



Угнаеньне дрэва.

У 1922 г. пры дасьледваньні помолёгічнага саду ў Горках з удзелам глебазнаўца праф. Я. Афанасьева вызначылася, што тут 70 гадоў таму назад зроблен быў правал глебы на глыбіню ў 50 см. Пры чым глеба страціла (апроч першых 3 вярш.) сваю пабудову (структуру), гэта знача, што фізычныя асаблівасьці глебы пагоршыліся. Гэтыя асаблівасьці (доступ паветра, запас вады і інш.) глебы без перавала на мяжы за садам аказаліся больш спрыяючымі для расьлін, як у садзе, дзе быў зроблен перавал. Тады ў нас паўстала пытаньне: ці варта рабіць перавал і глыбокую апрацоўку глебы ў пладовых гадавальніках? Па тых зьвестках, якія мы атрымалі з розных куткоў БССР ад садаводаў, выявілася, што перавал у знач-

ным ліку выпадкаў даваў дрэныя вынікі ў гадавальніках. У саўхозе „Калініна“ („Ігнацічы“ пад Менскам) у 1925 г. нам давялося быць сьведкай таму, як у гадавальніку быў зроблен пераавал і выразная чырвоная гліна з каменьнямі зьявілася асяродкам для гадаваньня зусім слабых дзічак, якія трэба было гільзаваць у летку. Нашы вядомыя садаводы Я. Мароз і Я. Качаноўскі (пад Дрыбіным) ніколі ня ўжывалі перавал гадавальніку. З 1922 г. я пачаў *садзіць сялянскія сады бяз‘ямным спосабам.* З вясны плошча займалася бульбай па моцнаму ўгнаеньню, а ўвосень, калі бульба выкопвалася, поле скародзілася і на кожныя 15 аршын квадратам убіваліся калы. У дзень пасадкі раскопвалася няглыбока паверхня глебы абы зьмясьціліся карэньні прышчэпкі (2-годкі), якія і засыпаліся па магчымасьці бяз зьмешваньня глебы. Ніякай асадкі пры гэтым, як пры ямнай пасадцы, ня наглядалася. Падкрэсьлім, што ўзрост гэтых прышчэп за апошнія 4-5 гадоў вельмі шпаркі.

За апошнія гады погляд садаводаў СССР на спосаб пасадкі нагул ня зьмяніўся.

У навуковай нямецкай часопісі „Пладоўніцтва і гародніцтва“ за 1927 г. зьявіўся артыкул аб шкоднасьці ямнай пасадкі пладовых дрэў. Аўтар артыкула падкрэсьлівае. што яма ў 1 мэтр глыбіні на цяжкіх глебах стварае дрэныя ўмовы для разьвіцьця штамбавых расьлін. Ямка асабліва на цяжкіх глебах вядзе да згніваньня карэньняў. Пры неспрыяючых умовах паслаблены пры перасадцы організм яшчэ больш хварэе. Абмен газаў з паветрам хутка спыняецца.

Працэс распаду вугальнай кісьлі падвышаецца і карэньні душацца. Капаньне ям стварае ў глебы сьціскаsuccнне пор, а гэта адбіваецца дрэна на разьвіцьці карэньняў. Як асядае глеба, працэс дыханьня зьніжаецца. На сугліністых глебах бакі ям па працягу шэрагу гадоў зьяўляюцца нібы сьценкамі сасудаў, куды з цяжкасьцю даходзяць карэньні, якія шукаюць найбольш пухкія хады.

Чытачом „Плуга“ мы раім абавязкова практываць папярэднюю апрацоўку глебы пад сад (пасадка бульбы па ўгнаеньні і праверыць выгаднасьць бяз‘ямнай пасадкі прышчэп таксама і павярхоўную воранку (на 4-5 вяршкоў) пад пладовыя гадавальнікі.

**М. Бурштэйн.**

г. Горкі.

---

# Дамашні выраб віна з яблык.

Віно з пладоў і ягад і асабліва з яблык у нас амаль што не вядомы, а за межамі гэта надта пашыранае піцьцё, асабліва ў Нямеччыне, Францыі, Швэйцарыі і Злучаных Штатах, дзе насельніцтва само прызвычаілася яго вырабляць.

Нам трэба навучыцца вырабляць пладова-ягадныя віны. Гэта мае сэнс таму, што віны гэтыя найбольш здаровы напітак у параўнаньні з усякім іншым сьпірытусавым піцьцём, і, падругое, выраб він з пладоў вельмі прыбытковы для гаспадара: таксама ён дапаможа скарыстаць лішак садовіны, якая ў нашых садох часта псуецца ў значным ліку.

*Лепшыя сарты яблык для віна.* З летнікаў віны бываюць нежныя, з добрым пахам, аднак іх цяжэй выраблянь і яны нятрывалы. Зімнікі даюць найбольш трывалыя і каштоўныя, але зімовыя яблыкі і так магчыма прыбыткова прадаць.

Мы раім спыніцца на асеньніх сартох. Трэба ведаць, што з аднаго сорту смачнае віно не заўсёды можна атрымаць; лепш браць 2-3 сарты ў мешаніне. Добра, калі ў мешаніну войдзе адзін сорт з добрым пахам, адзін з добрым смакам і цікавым чырвоным колерам і адзін кіслы. Заўсёды добра адбіваецца на віне дабаўка пладоў дзічак яблынь ці ігруш. (10-15 ф. на 1 п. мешаніны).

Больш выразна магчыма сказаць, што мешаніна з баравінкі, цітаўкі, харламаўкі, апорту [1]) дасьць прыгожае, смачнае, трывалае віно. Годна для вінаробства і наша антонаўка, і выраб віна з аднае яе дасьць прыбытак.

Ад пладоў вымагаецца, каб яны былі ў стане поўнай сьпеласьці, дасягнулі лепшага паху і смаку, сакавітасьці і колеру, ня былі перасьпелы, пагніўшыя альбо зялёныя.

*Пасуда*, да якой будзе прыкасацца сок пры пераробцы, павінна быць добра памытая крэпкім варам, лепш са шчолакам. Пасуда павінна быць *эмаліраванай*, гліняная (але ґаліваная), шкляная, алюміневая, а дзеравяная павінна быць дубовай (вымачанай некалькі разоў у чыстай вадзе). Няпрыгодна пасуда з сасны ці елкі. Няпрыгодны цынкавыя вёдры, жалезныя прылады, бо яны дрэнна адбіваюцца на віне.

*Здабываньне соку*. Брудныя плады звычайна трэба памыць чыстай вадой, але трэба ведаць, што на пладох ёсьць *брадзільны грыбок*—дрожжы, якія будуць вельмі неабходнымі ў працэсе бражэньня: пры мыцьці пладоў гэты грыбок у значным ліку абмываецца. Лепш браць плады проста з саду (у час, калі няма расы і няпыльна) чыстымі рукамі ў чысты кошык, каб магчыма было іх зусім ня мыць, а калі і мыць, дык мала.

Каб аджаць сок, плады размалваюць на звычайныя мясарубцы ці мэталічнай цёрцы. Аджымаць сок у звычайным палатне, не асабліва шчыльнай, з моцнай ніткі. Порцыямі па 3-5 кілёграма накладваюць на палатно цёртую мякаць, бакі яе заварачваюць на мякаць і скручваюць, як бабы выкручваюць бялізну пры мыцьці. Гэту працу добра выконваць у двух.

Такім чынам, з 20 кілёгр. (50 ф.) яблык магчыма атрымаць 12,3 літры (1 вядро), у якім будзе прыблізна 10-12 % цукру. Пры бражэньні з 2 % цукру палучаецца 1° алкаголю, г. зн. з нашага соку палучыцца 5-6 градуснае віно. Для большай моцнасьці і трываласьці віна трэба да соку дадаць чыстага цукру: на 1 вядро соку 5-6 фунтаў цукр. пяску; гэтакім чынам даводзяць % цукру ў соку да 28, што дасьць магчымасьць атрымаць віно ў 14° моцы.

Цукар раствараюць у соку і апошні наліваюць у чысты шкляны буталь, дзе ён будзе брадзіць. Лепшай пасудзінай будзе пузатая, а не галянастая з цёмнага шкла, а ня белага. 1/5 частку пасудзіны трэба пакінуць вольнай дзеля таго, што пры бурным бражэньні з поўнай пасудзіны будзе выходзіць сок.

Уся вышэйпамянёная праца павінна быць выканана ў працягу дню, і чым хутчэй, тым лепш.

Пасудзіну з *суслам* трэба закрыць *брадзільным шпунтам:* гэта корак з устаўленай шклянай трубкай, таўшчынёю з аловак і належна загнутай.

Пры бражэньні, дзякуючы *брадзільнаму грыбку*—дражжам, палучаецца сьпірытус і вугляквас ($CO_2$). Апошні павінен выйсьці, але так,

[1]) Кожны з гэтых сартоў і паасобку дае прыгожае віно.

каб у пасудзіну не попала паветра, а гэта дасягаецца тым, што канец трубкі апускаецца ў банку з перагрэтай халоднай вадою, якую трэба мяняць у 5 дзён раз. Корак зьверхў заліваецца парафінам ці воскам альбо сургучом.

Нормальна праз два дні сусла пачне брадзіць. Першы тыдзень—два будзе ісьці бурнае бражэньее з падняцьцем над сусламі шапкі з пені, а далей пойдзе ціхае бражэньне.

Ставіцца буталь у памяшканьні не на сьвет, дзе трымаецца роўная тэмпэратура 15-18°.

Праз 10-12 дзён, пажадана раз у 3-5 дзён сусла скалаціць, каб у ім раўней распаўюджваліся дражджавыя клеткі.

Р. Гуржы.

*(Працяг будзе).*

Г. Ялта.

## Як я хаваў яблыкі зімою.

Восеньню 1926 году ў мяне быў добры ўраджай на яблыкі, але як вядома кожнаму, увосень бывае многа працы ў гаспадарцы дык таму была яшчэ вельмі кепская дарога, чаму і нельга было вазіць гэтыя яблыкі ў Менск на рынак. Сорт яблык я меў апорт, за які ня надта дорага і плацілі на рынку. За пуд давалі ня болей аднаго рубля.

У канцы верасьня 1926 г. гэтыя яблыкі я абіраў рукамі і сыпаў на таку на разасланую аржаную салому. Калі пачаліся замаразкі і мае яблыкі маглі памерзнуць, дык я стаў шукаць новае месца для спрату. У мяне была запасная яма, якая была выкапана для сыпаньня бульбы. Вось сюды я і схаваў свае яблыкі. Перш паскладаў іх у розныя дрыўляныя пасудзіны, якія меў на гаспадарцы (кадушкі і розныя скрынкі), і ўсё гэта паставіў у яму. Праз усю зіму яму накрыў так, як і з бульбаю. Таксама праз усю зіму я наглядаў, каб у яму не заходзіў мароз і каб там ня было і лішняга цяпла.

25-га лютага я стаў даставаць гэтыя яблыкі і папсаванных з аднэй сотні знайшоў 6 штук. Але калі я павёз яблыкі на рынак, дык за мае яблыкі плацілі ўжо за адзін пуд 4 руб., а ўвосень не хацелі даваць і па 1 руб. За перахоўваньне я і зарабіў па 3 рублі на адным пудзе.

Яблыкі з зімовай лёжкі вышлі вельмі добрыя і харошыя. Раю ўсім гаспадаром, якія займаюцца садоўніцтвам, узяць гэта пад увагу.

Сел. К. Баяровіч.

(в. Стукаціцы, Самахвалаўскага р.).

## Догляд за пчоламі ў канцы лета.

Галоўны ўзятак мёду звычайна канчаецца ў нас у другой палове жніўня. К гэтаму часу лёт пчол на пасецы паступова зьмяншаецца. Пчолы кідаюць насіць мёд, робяцца злыя і кусьлівыя, нават гудуць яны тады інакш. Тут і малавопытны пчаляр заўважыць, што ўзятак канчаецца.

Але лепш за ўсё выявіць канец узятка па вазе кантрольнага вульля, калі ён ёсьць на пасецы. Ведаць канец узятка неабходна, бо як толькі ён падыходзіць к канцу трэба зьняць ўсе магазыны з вульляў, ня гледзячы на тое—запоўнены яны ці не.

Калі магазын повен мёду, пчол у ім будзе менш, дзякуючы чаму зьняць яго будзе лягчэй. Трэба толькі трохі падняць яго ззаду наперад і сагнаць пчол дымам у гняздо.

Калі-ж магазын няпоўны, то ў ім будзе шмат пчол. Каб зьняць такі магазын, трэба зрабіць так: зьняўшы з вульля верх, падушку і пакрыўку з рамак, трэба напусьціць дыму ў сярэдзіну магазына. Пасьля таго, як пчолы часткаю сойдуць у гняздо, трэба таксама падняць магазын ззаду наперад і курыць пчол і зьнізу і зьверху праз дзірачкі між рамак, пры гэтым падкураныя пчолы па пярэдняй сьценцы магазына спусьцяцца ўсе ў гняздо. Бываюць выпадкі, што пчолы ня хочуць пакідаць магазын. Тады з яго вымаюць рамкі і зьмятаюць з іх пчол у гняздо.

Калі магазыны зьняты, з іх пачынаюць выбрызгаваць мёд на мёдагонцы. Лепш выбрызгаваць мёд, калі ен яшчэ цёплы. Калі-ж па якой-небудзь прычыне мёд прыдзецца выбрызгваць ужо астыўшы, то памяшканьне, у якім гэта робіцца, трэба нагрэць градусаў на 25 і прыступаць да працы не раней таго, як і мёд нагрэецца да гэтай тэмпэратуры. Раскрываць рамкі з мёдам—трэба добра вытачанымі нажамі, каб яны ня зьміналі берагоў сотаў. Каб праца гэта ішла лягчэй і хутчэй, нажы можна падаграваць у гарачай вадзе.

У мёдагонку рамкі зьмяшчаюцца так, каб пры паваротах ніжні бок рамкі ішоў уперад верхняга. Калі так зьмясьціць рамку, дык мёд з яе выбрызгваецца лепш. Але гэта датычыцца толькі нізка-шырокіх рамак; рамкі-ж вузка-высокія зьмяшчаюцца ў мёдагонку як папала.

Мёдагонка паварачваецца павольна; калі адзін бок сотаў будзе выбрызнуты на палавіну, рамка паварачваецца другім бокам і ачышчаецца яна ад мёду ўжо дачыста. Далей рамку ізноў паварочваюць і з гэтага боку таксама выбрызгваюць увесь мёд. Усё гэта так робіцца дзеля таго, каб не паламаць соты ў рамках. Калі мёд з магазынаў выбран, трэба даць асушыць яго пчолам. Асушаныя соты лепш захоўваюцца. На кожны вулей можна пакінуць да 3-х магазынаў для асушкі. Адагнуўшы вугал пакрышкі, на яе ставяць магазын для асушкі. Пчолы абсмоктваюць прыстаўшы да сотаў мёд і адносяць яго ў гняздо. Пасьля гэтага магазын ужо можна зьняць. З гнязда мёд адбіраецца пазьней, як з магазынаў і то толькі залішні. З гнязда адбіраецца толькі той мёд, які знаходзіцца ў сьветлых вашчынах. У цёмных вашчынах мёд горшага гатунку, між тым як пчолы на такой вашчыне зімуюць лепш.

Сьпяшацца з выбаркай мёду з калод таксама ня трэба, бо часта бывае, што верх вульля—галава занята чарвой, а мёд знаходзіцца ўнізу. Калі рана падрэзаць калоду, можа здарыцца, што пчолам на зіму ня хопіць мёду.

Сваечасовае-ж падрэзваньне, якое робіцца пазьней, дасьць пчолам магчымасьць перанесьці мёд з пяты ў галаву, бо чэрва к гэтаму часу ўжо выйдзе. Вось загэтым мёд з калоды трэба браць не раней, як за 1—1½ тыдні да канца галоўнага ўзятка.

А. Магучы.

(Вёска Загор'е, Віцебскае акр.).

---




# Машына ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі.

**Трэба пакідаць старыя прыёмы нашай нізкай і саматужнай тэхнікі і пераходзіць да машыннай працы ў сельскай гаспадарцы.**

Перабудова сельскай гаспадаркі ў бок большай яе даходнасьці і культурнасьці ня можа праходзіць з поўным посьпехам пры старой захудалай і нізкай сельска-гаспадарчай тэхніцы. Напрыклад, у нас нічога хітрага і замыславатага няма ў тэхніцы ўтрыманьня і кармленьня малочнай скаціны, падрыхтоўцы корму, пераробцы малака. Таксама вельмі бедна наша сялянская тэхніка і ў адкорме сьвіней, гадоўлі маладняка, пераробцы і скарыстаньні садавіны, гародніны і г. д.

Такую-ж дапатопную тэхніку застала рэвалюцыя ў нашага селяніна і ў палявой гаспадарцы. Вельмі просьценькі плуг, а месцамі саха ды барана былі самыя пашыраныя ў нас „машыны".

Вядомая рэч, што ні культурнай апрацоўкі зямлі, ні высокага ўраджаю з імі не даб'ешся. Пашырэньне плошчы караньплодаў ці травы таксама будзе тармозіцца адсутнасьцю некаторых машын ці нястачай рабочай сілы.

Інтэнсыўны спосаб вядзеньня гаспадаркі, высокі ўраджай, як і большая даходнасьць сельскай гаспадаркі, бязумоўна, вымагаюць высокай с.-г. тэхнікі. *А ўзровень сельска-гаспадарчай тэхнікі вызначаецца ступеньню машынізацыі нашай гаспадаркі,* або інакш кажучы, *тым меркаваньнем, якую долю ўсёй працы ў гаспадарцы ў нас выпаўняюць машыны.* Напрыклад, жыта жнуць, малоцяць і веюць рукамі (сярпом, цэпам, каўшом), а можна тое-ж зрабіць жняяркай, малатарняй і арфай.

Корм скаціне даецца без падрыхтоўкі, а можна яго рэзаць, запарваць, абліваць вадою і г. д.

І тут машына будзе пераварочваць і паднімаць тэхніку кармленьня. Пры нізкай тэхніцы больш працы ў сельскай гаспадарцы праводзіцца рукамі. На гэта траціцца шмат часу, чаму некаторыя работы зацягваюцца і спаўняюцца ня ў пору. Таксама няхватка рабочых рук (у летні час) пры нізкай тэхніцы не дазвалае селяніну сьмела павялічваць плошчу пад караньплодамі, ільном, бульбай, як трудаёмістымі расьлінамі. Гэтыя прычыны тармозяць і пераход да шматпольных севазваротаў.

Па гэтай-жа прычыне асабліва позьняцца нашы сяляне з палявымі працамі (заворваньнем папараў, баранаваньнем пасьля воранкі, воранкою на зяб, часта сяўбою і г. д.). А вядома, дрэнны і несвае-

часовы выраб поля не дае і належнага ўраджаю. Ураджай пры такіх умовах ня можа расьці і даходнасьць гаспадароў будзе нізкай.

Наадварот, пры ўжываньні машын і больш высокай сельскагаспадарчай тэхніцы шмат ранейшых цяжасьцяй зьнікае, бо прымяненьне машын у сельскай гаспадарцы нясе з сабою шмат выгад. Першае, машыны могуць паляпшаць выпаўненьне самой работы (плуг замест сахі) ці паляпшаць якасьць прадукцыі. Другое, машыны ва многа разоў прысьпяшаюць працу. Напрыклад, касілка замяняе 12 касцоў, жняярка 24 жняі, малатарня 10—20 малацьбітоў і г. д.




Жняярка замяняе 24 жняі.

Такая шпаркасьць машыны ў рабоце нязвычайна каштоўна ў сельскай гаспадарцы.

Маючы больш вольнага часу, гаспадарка будзе ўводзіць новыя галіны і пашыраць інтэнсыўныя (садоўніцтва, малочную гаспадарку, лён, і г. д.) Вось чаму перабудова нашай сельскай гаспадаркі і прыводзіцца пры адначасовай і найбольшай яе машынізацыі. Савецкая ўлада прымае ўсе крокі, таму, каб с.-г. машыны, найшырэй навадняли-б нашу вёску і замянялі б там *сэрп жняі, касу, цэп* і *саху.* Напрыклад, цэны на машыны зьніжаюцца часта ніжэй сабекошту, даецца крэдыт, спрошчан парадак палучэньня крэдыту і г. д.

Цяпер селяніну трэба толькі выявіць *больш зацікаўленасьці да самога факту машынізацыі сельскай гаспадаркі* і набываць машыны аднаму ці колектыўна і *абавязкова звальваць больш цяжкую і марудную працу на машыну.*

Коратка скажам аб тых машынах, якія неабходна мець ці набыць пры самым няшырокім пляне машынізацыі сельскай гаспадаркі.

1) Для прыборкі ўраджаю, малацьбы і ачысткі зярна неабходна мець *жняярку, малатарню* і *арфу-сартоўку*. Усё гэта дарагія машыны (155—206 р.) і хаця на іх даецца крэдыт, аднак лепш набываць іх коопэрацыйным шляхам (колектыўна). Гэтыя машыны найбольш скарачаюць працу селяніна.



Арфа-сартоўка.

2) Для больш хуткага і культурнага вырабу поля неабходны — *двухлямешны плуг, барана „зіг-заг", асыпнік, пружыновая барана*. Двухлямешны плуг з двума нарогамі захватвае да 40 см. і можа ўжывацца пры мешані, воранцы на зяб і г. д. Цягне яго пара коняй, каштуе 38 рублёў.

Барана „зіг-заг" мае тры зьвяна і адразу захватвае 289см. (4 арш.). Запрагаецца пара коняй, каштуе 26 руб. Для ворыва канюшынішча добра мець плуг на кольцах па тыпу Сакка. Каштуе 32 р. 40 к. Для пераворваньня сенажаці ці вырабу балота н е а б х о д з е н яшчэ асобны плуг і бораны.



Двухлямешны плуг на пару коняй.

3) Для падрыхтоўкі корму скаціне ў першую чаргу патрэбна сячкарня, а далей і другія машыны.

4) Таксама неабходна заводзіць машыны для апрацоўкі ільну, перапрацоўкі малака і інш. прадуктаў сельскай гаспадаркі.

Такім чынам, машынізацыя сельскай гаспадаркі будзе крок за крокам перабудоўваць яе тэхніку і зьвязваць яе з новымі больш даходнымі і культурнымі формамі. Яшчэ раз падкрэсьлім, што справа машынізацыі—дарагая рэч і яна падсілу толькі сялянскаму аб'яднаньню.

**С. Тупяневіч.**

# Аб мерапрыемствах супраць празьмернага драбленьня сялянскіх гаспадарак.

*(У парадку абгаворваньня).*

Жывучы ўвесь час у вёсцы, мне больш чым каму вядомы празмерны падзел вясковых сялянскіх гаспадарак, у выніку якога некаторыя гаспадаркі прышлі да поўнага зьнішчэньня.

Як зазначае адзін артыкул „Плуга“ № 6 (тав. Вішнеўскага), колькасьць сялянскіх гаспадарак з кожным годам расьце і за кошт надзяленьня занова, але большасьць іх утвараецца толькі ў выніку падзелу або драбленьня тых гаспадарак, якія пры недрабімасьці маюць серадняцкі від. Але калі і заможная гаспадарка дзеліцца, дык усёроўна яна бяднее бо двум гаспадаром трэба абзаводзіць новую будоўлю сельска-гаспадарчы інвэнтар, які і да падзелу гаспадаркі ня меў поўнай нагрузкі на цэлае лета. Пры падзеле аднолькава страдаюць абедзьве гаспадаркі. У выніку такіх падзелаў нашы гаспадаркі жывуць для сябе, бо нічога ня вывозяць на рынак і самі яшчэ купляюць хлеб на рынку. А між тым наша старонка земляробская і выходзіць, што мы не вырабляем на рынак сельска-гаспадарчыя прадукты, а наадварот жывем ва ўбытак дзяржаве.

Я ведаю вёску (Крушынаўка), якая мае 170 гаспадарак. На гаспадарку ў сярэднім прыходзіцца 2·3 дзес., зямлі, якая распаложана церазпалосіцаю, і тут ніводны селянін ня вывез на рынак ні аднаго фунта зярна. Адсюль наш урад, улічыўшы гэта, думае выдаць закон, які-б забараняў такія нямэтазгодныя дробныя падзелы. Я лічу, што выданьне закону аб забароне падзелаў вымагае жыцьцё. Толькі ў законе патрэбны некаторыя агаворкі. Усякая бядняцкая слабая гаспадарка падзелу не падлягае, г. ё. не падлягае падзелу зямлі маемасьць. Калі-ж яна хоча падзяліцца ў выніку сямейных разладаў, ды я жадаючаму аддзяліцца выдаецца яго часьць грашыма. Больш-жа моцныя гаспадаркі, жадаючыя падзяліцца, павінны мець даныя аб тым, што яны ня прыдуць да заняпаду, аднак трэба іх запэўніць, што ніякіх льгот па абрэзцы і земляўпарадкаваньню яны не атрымаюць. Надаваньне права абвяшчаць гаспадарку недрабімай па пастанове большасьці яго роўнапраўных членаў я лічу нямэтазгодным, бо калі мой брат хоча аддзяліцца, а я і другія мае браты не пажадаюць на некаторы час, дык усё роўна, каб ня было спрэчак, мы абвесьцім гаспадарку драбімай, абы выжыць гэтыя кляўзы. К таму-ж завядуцца спрэчкі ў такіх гаспадарках аб тым, каму выходзіць з двара, якія загрузяць нашы нарсуды справамі па высяленьню адзін другога.

Тыя гаспадаркі, якія імкнуцца здабыць падзел дзеля таго, каб атрымаць ільготы, як па абрэзцы, с.-г. падатку, землянадзяленьню і г. д., такія драбімыя гаспадаркі трэба касаваць і не даваць ніякіх ільгот. Аб гэтым павінна ведаць належная ўстанова, якая дае ільготы. Аб адмене рэгістрацыі самаахвотных падзелаў у РВК і спрачацца ніхто нябудзе. Такія гаспадаркі ніякіх ільгот не атрымаюць. Такім чынам, выдаўшы такога зьместу закон аб недрабімасьці гаспадарак, мы сумеем накіраваць нашы гаспадаркі па сацыялістычнаму шляху: гаспадаркі будуць існаваць толькі высокай таварнасьці і значнай прадукцыі для рынку, а ў гэтым наша чарговая задача.

Сел. **Я. М. Савіцкі.**

# Трэба падзелы сельскіх гаспадарак спыніць.

Тав. Вішнеўскі ў „Плугу“ № 6 закрануў вельмі балючае пытаньне вёскі. У земкамісіях ляжыць шмат спраў аб падзелах. Ад чаго-ж у нас бываюць падзелы?

Я ведаю шмат прыкладаў з вёскі Балоньня, што гаспадаркі дзеляцца з такою мэтаю, каб, вышаўшы са свайго складу двара, атрымаць дзе небудзь зямлі. Выходзяць з двара безьзямельнымі і дзеляць толькі маемасьць. Калі земкамісія судом зацьвердзіць падзел, дык тыдні праз 3-4 выдзеліўшыся зноў падае ў земкамісію заяву аб надзяленьні яго зямлёю.

Часта падзелы бываюць з-за таго, што гаспадары не даюць сыном ніякіх правоў у гаспадарцы. Гаспадар вядзе гаспадарку не акуратна. Па мойму, трэба каб у кожнай гаспадарцы быў кожнаму члену свой аддзел; напрыклад, гаспадар вядзе палявую гаспадарку, сын займаецца рамяством, другі гадуе прышчэпы, трэці гародніну і кожны з сваёй прафэсіі павінен даць у гаспадарку з даходу 20 проц., а астатняе браць на сваю карысьць. Вось тады толькі будзе правільны падыход да выращэньня падзелаў і кожнаму будзе праца і сродкі для сваёй патрэбы, а гаспадарка будзе расьці.

Райземкамісіям ня трэба дазваляць падзелаў неабходнае маемасьці, інвэнтару, насеньня. Па мойму, трэба ўстанавіць нормы маемасьць, інвэнтару і насеньня, якія пры раздзеле не павінны дзяліцца, а можна толькі выплачваць іх кошт грашыма ў тэрмін ня цяжкі для гаспадаркі. Па мойму, трэба ў Земкодэксе ўстанавіць цьвёрдыя нормы недрабімых гаспадарак хутарскіх і сельскіх. Гэтыя нормы будуць ахоўваць сельскую гаспадарку ад заняпаду і драбненьня; гэту задачу трэба зрабіць.

Сельсаветам і к-там узаемадапамогі трэба прысутнічаць на разьдзелах і даваць сваі заключэньні аб разьдзеле ў Земкамісію. Старым бацьком трэба, каб сыны давалі сродкі на пражыцьцё, абутак, вопратку і кватэру: каб ня пускаць бацькоў іці жабраваць. Ад усіх сыноў павінна быць роўная дапамога. Няспраўных сыноў і дачок прыцягваць да адказнасьці пры ня выплаце долі ўтрыманьня. Таксама трэба выращыць і норму, на якую можа пражыць бацька.

Ільготы, якія прыпадаюць пасьля падзелу, трэба зусім адмяніць, бо ёсьць такія гаспадаркі, якія дзеляцца, каб атрымаць прырэзкі, няісьці ў вайсковую службу. Я ведаю такую гаспадарку, дзе казалі: „як аддзялюся, дык меншы брат ня пойдзе ў салдаты“, а я атрымаю прырэзку“. Толькі такі шлях барацьбы з частымі падзеламі, разбураючымі гаспадарку, дасьць ўсё неабходнае для яе разьвіцьця.

(х. Сарачынава). Сел. А. Карнейчык.

---

# Пытаньні і адказы па зямельных справах.

Пытаньне 88. Хто ў першую чаргу надзяляецца зямлёй пры земляўпарадкаваньні—бядняцкія гаспадаркі зусім ня маючыя зямлі ці гандляры і арандатары млыноў, маючыя вучасткі зямлі ад $^1/_2$ да 2 дзесяцін. (Абалецкі сельсавет).

Адказ. На грунце арт. 10 Зям. Код. пры земляўпарадкаваньні безьзямельнае працоўнае земляробчае насяленьне надзяляецца зямлёй

з складу дзяржаўнага запаснага фонду раней, чым малазямельнае насяленьне. Калі асноўным заняткам удзельніка земляўпарадкаваньня зьяўляецца саматужная або рамясловая прамысловасьць, а таксама дробны гандаль, дык пры земляўпарадкаваньні яму пакідаецца яго вучастак у межах сядзібных зямель сяленьня, а пры адсутнасьці ў саматужніка зямлі ён надзяляецца сядзібай з запаснага фонду.

Працоўныя земляробскія гаспадаркі таксама могуць мець падсобныя заняткі, як дробны гандаль, рамясловыя і саматужныя промыслы, прычым гэтыя заняткі не паралізуюць іх праў працоўнага землякарыстаньня. Выцякае гэта з пастановы ЦВК і СНК СССР за 3 жніўня 1926 г. аб абкладаньні адзіным сельска-гаспадарчым падаткам працоўных земляробскіх гаспадарак, якія займаюцца промысламі ў сельскіх мясцовасьцях з дапамогай ня больш трох рабочых. Такім-жа чынам зямельны кодэкс не залічае ў лік падстаў для адабраньня зямлі ад працоўных земляробскіх гаспадарак падсобнае заняцьце іх гандлем або промысламі. Таму памянёныя гаспадаркі маюць права на надзяленьне іх зямлёй у парадку устаноўленай чаргі.

Пытаньне 89. У земляўпарадчай практыцы бываюць выпадкі, калі пры падрыхтоўцы земляўпарадчых спраў у 1925 г. рашэньнямі зямельных камісій аб'еднаны ў адну гаспадарку, гаспадаркі, якія былі падзелены, але не аформілі сваіх разьдзелаў праз рэгістрацыю. Выкананьне адзначаных спраў робіцца ў бягучым годзе. Па тлумачэньню-ж Наркамзему трэба лічыцца з разьдзеламі, хоць бы яны і ня былі зарэгістраваны, калі яны адбыліся да 7 чэрвеня 1925 г.; як рабіць у такіх выпадках? (Слуцкая райземкамісія).

Адказ. Калі пры падрыхтоўцы земляўпарадчае справы аб'яднаны ў адну гаспадарку двары, фактычна разьдзяліўшыяся да 7 чэрвеня 1925 год, хоць-бы іх падзелы, і ня былі оформлены, належыць лічыць цяпер законнымі на грунце п. 3 пастановы СНК БССР за 10 красавіка 1925 г.; пры складаньні канчатковага земляўпарадчага проэкту належыць, захоўваючы правы і законныя інтарэсы ўдзельнікаў земляўпарадкаваньня, унасіць адпаведныя сапраўднасьці зьмены ў складзе двароў у парадку праверкі пасямейных сьпіскаў на падставе пасьведчаньняў сельскага савету альбо актаў земляўпарадчыка аб тым, што даны двор разьдзяліўся фактычна да 7 чэрвеня 1925 г.

Пытаньне 90. Ці можа зямельная камісія прыняць да разгляду іск аб падзеле зямлі і маёмасьці ад асобы, якая падавала такі-ж самы іск два ці тры гады таму назад, але ў хадайніцтве аб падзеле было адмоўлена? Апошні іск мае іншыя акалічнасьці, якія выклікаюць неабходнасьць падзелу. (Мсьціслаўскі райвыканком).

Адказ. Вырашаная зямельнай камісіяй справа не падлягае новаму разгляду па хадайніцтву стараны, хоць-бы апошняй і былі пададзены новыя довады па справе, бо старана павінна была даць усе свае довады пры першым разглядзе справы. Калі-ж акалічнасьці справы зусім зьмяніліся пасьля яе разгляду, выявіліся новыя падставы, якіх ня было пры першапачатковым разглядзе іску, то магчыма падача новага іску па тэй-жа справе без адмены ранейшага рашэньня.

# Праз „Плуг“ да інтэнсыфікацыі.

Вось ужо два гады прайшло, як я зьвязаўся з часопісьсю „Плуг“, выпісваючы і чытаючы яго артыкулы па сельскай гаспадарцы. Усё падыходзячае да нашых умоў стараемся выкарыстаць пад кіраўніцтвам артыкулаў „Плуга“, які зьяўляецца ў нашай гаспадарцы першым памоцнікам. Па закліку рэдакцыі набывае пэўнае месца ў нашай гаспадарцы закладка вопытаў. Дзякуючы „Плугу“ канюшына ў нас разводзіцца ня толькі на корм, а і для насеньне, з якога можна мець карысьць, прадаўшы за грошы.

Прысланае рэдакцыяй „Плуга“ насеньне розных культур, высяваецца з захаваньнем усіх умоў яго роста. Гэтыя малыя мяшочкі рэдакцыі (па 100 грам) робяць рэарганізацыю гаспадаркі да найбольш даходных культур. Дзякуючы гэтаму насеньню ў гаспадарцы зьяўляюцца кораньплоды, сэрадэля, новая трава „суданка“, новы сорт пшаніцы-літоўкі, якой у нашай мясцовасьці зусім няма.

Такім чынам, „Плуг“ робіць сваю вялікую справу ў галіне інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі.

Вось, чаму ў двухгодзьдзе агранамічнага уплыву „Плуга“ на маю гаспадарку, шчыра дзякую часопісі і жадаю ёй надалей быць штурхачом ўсіх сялян Беларусі да сацыялістычнай гаспадаркі.

Сел. Я. М. Савіцкі.

(в. Шмакі, Чачэвіцкага р.).

---

# Чаму навучыла нас часопісь „Плуг“.

Да 1926 году ў нашай вёсцы ні адзін селянін ня ведаў пра карысьць, напрыклад, кораньплодаў, сэрадэлі і шмат інш. Але вось у 1926 годзе нейкім парадкам папала ў нашу вёску часопісь „Плуг“, дзе адзін селянін і вычытаў пра кораньплоды, зараз-жа пасадзіў іх на невялікім вучастку. Ён на факце даведаўся, што гэта расьліна добрая і дае шмат карысьці селяніну. Вось з гэтага часу нашы сяляне пачалі выпісваць часопісь „Плуг“ і давалі адзін другому чытаць і цяпер лічаць „Плуг“, за неабходную кніжку ў кожнай сялянскай гаспадарцы.

Шмат чаго даведаліся нашы сяляне праз гэтую кніжку, шмат хто ўцяпліў хлявы для скаціны, а на 1927 год вясною амаль што ня ў кожнага селяніна ўжо пасаджаны хоць на невялікім вучастку кораньплоды. Шмат у якіх сялян пуставала поле на ўзгорках, дзе нішто не хацела расьці; сёлета там зелянее сэрадэля. Таксама, чытаючы „Плуг“, будынкі пачалі крыць чарапіцаю. Уведалі сяляне і пра карысьць канюшыны, але бяда ў тым, што пры вузкапалосіцы і трохпольлі трудна сеяць канюшыну, дык нашы сяляне ўжо пагаворваюць, каб завесьці шматпольле і частку грошай ужо ўнесьлі ў РВК на каморнікаў.

Як карысная і недарагая кніжка, часопісь „Плуг“, павінна быць у самай цёмнай вёсцы і ў кожнай хаце павінны чытаць нашы сяляне „Плуг“. У гэтай кніжцы ведаў шмат, толькі трэба іх вычарпаць.

Сел. М. Сенька.

(в. Ізьбішча, Пухавіцкі р.).

---